© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
**Менск, 25 сакавіка 1918 г.**
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 398 Люты 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯНАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

25 сакавіка — нацыянальнае сьвята Беларусі. У гэты дзень 75 гадоў назад у Менску была абвешчаная незалежная, самастойная дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. Пасьля доўгага панаваньня чужынцаў адрадзілася беларуская дзяржаўнасьць. Гэта быў вынік самаахвярнага змаганьня лепшых сыноў нашай зямлі за шчасьце і волю.

Гістарычныя ўмовы таго часу не дазволілі скарыстаць заваяванай перамогі. Але наш народ не скарыўся. Беларускія жаўнеры, слуцкія паўстанцы, змагары, якіх катавалі ў пастарунках, расстрэльвалі ў Курапатах, зьнішчалі ў гітлераўскіх вязьніцах, адраджэнцы, якіх цкавалі і заносілі ў чорныя сьпісы «нацыяналістаў», сваёю мужнасьцю і адданасьцю Бацькаўшчыне набліжалі час вызваленьня. Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, абвяшчэньне незалежнасьці ў жніўні 1991 году — лягічны працяг гістарычных падзеяў, што адбыліся ў сакавіку 1918 году. Бязь іх ня было-б сёньня ў сьвеце Рэспублікі Беларусь.

25 сакавіка — сьвятая дата ў нашай гісторыі. Арганізацыйны камітэт, створаны грамадзкасьцю Беларусі, заклікае ўсенароднa адзначыць сьвята. Прапануем грамадзкім арганізацыям, установам культуры, навукі, працоўным калектывам правесьці ўрачыстыя сходы, вечарыны, навуковыя канфэрэнцыі, народныя шэсьці, ускладаньне кветак да памятных мясьцінаў, да помнікаў нацыянальным дзеячам, выставы, канцэрты і іншыя мерапрыемствы, прысьвечаныя 75-й гадавіне адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці. Арганізацыйны камітэт лічыць сваім пачэсным абавязкам выступіць непасрэдным чыньнікам сьвяткаваньня ў сталіцы нашае дзяржавы.

Выказваем надзею, што сьвята 25 сакавіка стане днём яднаньня беларускага народу, асэнсаваньня мінулага і згуртаваньня сілаў дзеля адраджэньня нашае Бацькаўшчыны, якую Бог дараваў беларусам, і за якую нам адказваць перад нашчадкамі і ўсім сьветам.

Жыве Беларусь!

*Зварот гэты мы атрымалі зь Менску 2 лютага сёлета. Зварот падпісалі кіраўнікі і прадстаўнікі 40 арганізацыяў, рухаў, партыяў, публікацыяў ды навуковых і навучальных установаў.*

## ЦІ ВАРТА ЎСПАМІНАЦЬ?

Кожны чалавек, кожны народ мае сваю мінуўшчыну, сваю гісторыю. Забяры ад яго гэтую мінуўшчыну, і такая адзінка ня можа існаваць. Возьмем прыклад чалавека, які ў выніку аварыі страціў камплетна памяць — ён ня ведае, хто ён, дзе жыў, дзе нарадзіўся, адкуль ён узяўся. Людзі гэткія вельмі нешчасьлівыя і вельмі часта канчаюць жыцьцё самагубствам. Я думаю, што падобнае зьявішча таксама і з народамі, якія пазбаўленыя сваёй гісторыі. Тут я маю наўвеце наш беларускі народ. Савецкія ўлады ўсімі спосабамі, уключна і крымінальнымі, намагаліся адабраць нашую гісторыю. Амаль тры пакаленьні ўзгадоўваліся на тым, што толькі савецкая ўлада дала дзяржаўнасьць беларускаму народу, стварыўшы БССР у 1919 годзе. Ня было мовы аб Акце 25-га сакавіка, аб Слуцкім паўстаньні, аб багатай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Кастусь Каліноўскі калі і ўспамінаўся, дык не як змагар супраць акупацыйнага рэжыму Масквы. Мову забралі разам з гісторыяй. Намагаліся давесьці наш народ да стану поўнае нацыянальнае амнэзіі, каб стварыць паслухмянага аўтамата, імя якога — Гома Саветыкус — сёньня часта чуем.

Але ці варта ўспамінаць мінулае? Лепш можа забыцца ды пачаць будаваць новае, г.зн забыцца аб усіх тых зьдзеках над нашым народам, аб нялюдзкіх злачынствах, папоўненых органамі КДБ ці былога НКВД, забыцца аб Курапатах, забыцца аб нялюдзкіх ссылках, забыцца аб нявіннай сьмерці мільёнаў беларусаў. Але ці гэта будзе маральна правільна, справядліва і карысна? Прыкладам, гэбрэі не дазволяць сьвету забыцца аб шасьці мільёнах іхных суродзічаў, закатаваных гітлераўскімі бандамі. Не дазволяць не таму, што хочуць помсты, але дзеля таго, каб сьвет не забыўся аб гэтых злачынствах, толькі таму, каб яны больш не паўтарыліся.

Катынь, Курапаты, Салаўкі. Колькі-ж іншых месцаў масавага забойства яшчэ не адкрытых? Калі нацысты масава вынішчалі людзей, дык прынамся сваіх не чапалі, тымчасам як «Вялікі Бацька» народаў пры дапамозе слаўных дзяржынскіх, ягодаў ды бэрыяў патрапіў зьнішчыць блізу 60 мільёнаў сваіх грамадзянаў. Адно ў 1930-х гадох зьнішчыў 40.000 лепшых афіцэраў. Вынік быў відавочны і ў часе Фінляндзкай вайны, і ў 1941 годзе.

Яшчэ сёньня ёсьць элемэнты сярод старога, крымінальнага рэжыму, якія называюць ворагамі ўсіх тых, хто змагаўся супраць савецкага акупацыйнага рэжыму — але ня супраць Рэспублікі Беларусь, што сёньня прыняла Пагоню і Бел-Чырвона-Белы сьцяг, пад якім яны змагаліся, каб жыла Бацькаўшчына. Колькі жывых суўдзельнікаў у масавых забойствах, прыкрытыя ордэнамі, сёньня схаваўшыся чакаюць: а можа яшчэ прыйдзе нейкая зьмена і яны яшчэ прыдадуцца са сваім дасьветчаньнем.

Помсты мы ня хочам, але трэба, каб новае пакаленьне ведала мінулае ды не дапусьціла да ягонага паўтарэньня.

**Б. Рагуля**

**Vera Zyznieuski Romuk**

### THE TWO EAGLES

*The two young eagles of USA*
*Reached their ultimate height well*
*On November 3, 1993 — Election Day —*
*To rule the country for four years.*

*The two young eagles — a new team,*
*Have pledged to people their wisdom clear*
*To keep the country moving in the right direction,*
*To bring love and happiness to everyone near.*

*The President-elect Bill Clinton*
*And his team-mate Senator Al Gore*
*Will spare no energy whatsoever*
*To keep the country strong.*

*God bless America and the new leaders*
*In their drive to reach their goals and new spirit,*
*For the young generations of citizens*
*To fulfill their dreams and visions.*

*Chicago, Illinois*
*November 3, 1992*

Паслаўшы гэты верш нававыбраным Прэзыдэнту Білу Клінтану і Віцэ-Прэзыдэнту Алу Гору, сп-ня Вера Рамук атрымала ад кожнага зь іх напярэдадні іхнае інаўгурацыі (увядзеньня ў абавязкі) пісьмовую падзяку. Сп. Клінтан напісаў, што «Ваша падтрыманьне мае для мяне вялікае значэньне».

## «БЕЛАРУСЬ ПАКАЗВАЕ ШЛЯХ ДА РАЗЗБРАЕНЬНЯ»

*Пад гэткім загалоўкам газэта «Нью-Ёрк Таймс» (аўторак, 8 лютага 1993) зьмясьціла рэдакцыйны артыкул, які ніжэй публікуем у нашым перакладзе.*

Беларусь цяпер фармальна пастанавіла адмовіцца ад свае ядзернае зброі — першая ў гісторыі краіна, якая зрабіла гэтак. Ейны парлямэнт прагаласаваў у чацьвер трымацца пакту аб непашыраньні ядзернае зброі і ратыфікаваць умову 1991 году аб скарачэньні стратэгічных узбраеньняў.

Беларусь ужо падпісала пагадненьне з Масквою аб перадачы Расеі усіх 81 ракеты СС-25 зь ядзернымі баягалоўкамі на дэмантаж да канца 1994 году.

Гэты драматычны жэст заслугоўвае на больш, чымся толькі пахвалу з боку Вашынгтону. Ён можа забясьпечыць Беларусі поўнае пакрыцьцё коштаў раззбраеньня, а таксама прыбытак за праданы ядзерны матарыял з баягаловак.

Вашынгтон можа таксама забясьпечыць Беларусі дадатковыя стымулы, каб прысьпешыць раззбраеньне. Прыкладам, ён можа супольна са сваймі саюзьнікамі паслаць высокага профілю місію ў Менск, каб пачаць там супрацоўніцтва з урадам у справе фінансавай і іншай падтрымкі, скіраванай на дапамогу ў перабудове эканомікі. Супольна яны могуць заснаваць фонд, каб памагаць Беларусі.

Казахстан, яшчэ адна ядзерная рэспубліка былога Савецкага Саюзу, ратыфікавала ўмову аб скарачэньні стратэгічных узбраеньняў, але не далучылася, як бязьядзерная дзяржава, да ўмовы аб непашыраньні ядзернай зброі. Украіна тымчасам не зрабіла ніводнага з гэтых крокаў, незважаючы на свае паўторныя заявы аб тым, што безадкладна падпіша.

Своечасовая акцыя Вашынгтону па аказаньні дапамогі Беларусі падкрэсьліць адзін важны мамэнт: што раззбраеньне — гэта найлепшы шлях для малых дзяржаваў, каб забясьпечыць сабе лепшую будучыню. І яны не патрабуюць баяцца, што іхныя пільныя патрэбы будуць забытыя.

### ІНФАРМАЦЫЯ ПРА БЕЛАРУСЬ ПАШЫРАЕЦЦА

Развал Савецкага Саюзу прымусіў шмат якія прафэсійныя публікацыі на Захадзе паінфармаваць сваіх чытачоў пра дзяржавы, што паўсталі на тэрыторыі былога СССР і, адпаведна, расказаць пра кожную зь іх. Гэтак зрабіў і амэрыканскі вэксылялягічны часапіс The Falg Bulletin (вэксылялёгія — навука пра сьцягі). У гэтай публікацыі (№ 148, верасень-кастрычнік 1992) змешчаная інфармацыя пра зьмененую ангельскую форму назову Беларусі (Belarus) і новую дзяржаўную сымболіку рэспублікі. Пададзеныя таксама коратка гістарычныя весткі пра Беларусь, сказна пра абвешчаньне незалежнасьці БНР 25 сакавіка 1918 году. Дадзены рысунак Пагоні. У даведцы нагадваецца, што поўная гісторыя сьцягу і эмблемаў савецкай Беларусі была зьмешчаная ў нумары 126-м гэтага часапісу.

*The Belarusan American Association, Inc.*
*and*
*The Belarusan-American Youth Organization request the honor*
*of your presence at a banquet and concert commemorating the 75th Anniversary*
*of the Proclamation of Belarusan Independence on Sunday,*
*March 28th, 1993 at 12:30 p.m.*
*The Regency Ballroom at the Hyatt Regency, Two Albany Street,*
*New Brunswick, New Jersey*
*Preceding the Banquet Divine Liturgy at 10:00 a.m.*
*St. Mary of Zyrovicy Belarusan Autocephalic Orthodox Church, 9 River Road,*
*Highland Park, New Jersey*
*R.S.V.P. by March 15th*
*For information:*
*Ms. Vera Zaprudnik (516) 627-0902*
*Mr. George Azarko (908) 560-8610*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРА СТАЎЛЕНЬНЕ ДА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ
### Ухвала Сойму БНФ «Адраджэньне»

Пракамуністычная большасьць Вярхоўнага Савету Беларусі, растаптаўшы Канстытуцыю, Закон, маральнасьць, правы чалавека, забараніла рэфэрэндум аб нечарговых выбарах. У каторы раз парушыўшы закон, яна аднавіла на Беларусі дзейнасьць юрыдычна не афармленай злачыннай арганізацыі КПБ-КПСС — забойцы мільёнаў бязьвінных людзей.

Па сутнасьці нічога не зьмянілася, бо камуністы як кіравалі, так і кіруюць, толькі цяпер яны зноў легалізавалі сваю партыйную ўладу і засьведчылі сябе кіруючай партыяй, прызнаўшыся тым самым да сваёй антынароднай палітыкі, якую раней спрабавалі прыпісаць «дэмакратам». Рэспубліка Беларусь зноў стала ня толькі па сутнасьці, але і па форме камуністычнаю.

Некалькі месяцаў таму згуртаваньне «Бацькаўшчына», дэмакратычныя арганізацыі Беларусі выступілі зь ініцыятывай скліканьня ў Менску зьезду беларусаў сьвету, які стаў-бы крокам да аб'яднаньня намаганьняў беларусаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы дзеля ўмацаваньня незалежнасьці, паскарэньня эканамічных рэформаў і ўсталяваньня сапраўднай дэмакратыі на Беларусі. Але кіраўніцтва былой БССР, якое зьневажала і зьневажае беларусаў замежжа, цяпер хоча дамагчыся прызнаньня сваёй легітымнасьці эміграцыяй ды сусьветным грамадзтвам. Для гэтага яно намагаецца перахапіць ініцыятыву і выкарыстаць зьезд ва ўласных прапагандысцкіх мэтах.

Беларускі Народны Фронт ня можа ўдзельнічаць у падобным палітыканстве і заклікае згуртаваньне «Бацькаўшчына», усіх сумленных беларусаў ня даць сябе падмануць, ня браць удзелу ў маніпуляцыях бальшавіцкай намэнклятуры. Правядзеньне Зьезду беларусаў сьвету стане магчымым і сапраўды плённым толькі пасьля новых, дэмакратычных выбараў на Беларусі.

13 лютага 1993 г.
г. Менск

## ХТО ПЕРАКРУЦІЎ: СП. П. КРАЎЧАНКА ЦІ БЕЛІНФАРМ?

Як прымірыць, або чым вытлумачыць, разыходжаньне паміж наступнымі дзьвюма заявамі?

1. З рэзалюцыі 20-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, пункт 5-ты:

«**Афіцыйныя колы Беларусі,** у тым ліку Міністэрства замежных спраў, Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і іншыя структуры, **выступілі з прапановай правесьці ў чэрвенілíпені сусьветны зьезд («кангрэс») беларусаў.** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады падтрымваюць у прынцыпе гэтую насьпелую ідэю і ўдзел у ажыцьцяўленьні гэтага праекту абумоўліваюць далейшым ходам працэсу дэмакратызацыі на Беларусі і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва».

2. Словы Міністра замежных спраў Беларусі сп. Пятра Краўчанкі паводля карэспандэнткі Белінфарм Тацьцяны Храпінай («Народная газета», 18 верасьня 1992 г.):

«У размове зь ім («з нашым суайчыньнікам панам Пятроўскім») я хачу закрануць пытаньне і аб удзеле пана Пятроўскага ў падрыхтоўцы зьезду беларускіх эмігрантаў сьвету, **рашэньне аб правядзеньні якога ў наступным годзе ў Менску было прынята на 20-й сустрэчы** беларусаў Паўночнай Амэрыкі і Канады ў ЗША».

Дык хто прыняў пастанову аб скліканьні зьезду: афіцыйныя колы Беларусі ці 20-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі?

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## ПРА РЭЛІГІЙНЫ СТАН НА БЕЛАРУСІ

Амэрыканскі часапіс The Catholic World Report (студзень 1993) зьмясьціў вялікі ілюстраваны фатаздымкамі артыкул брытанскай журналісткі Веры Рыч пра рэлігійны стан на Беларусі і дыскрымінацыю беларускай мовы каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі ды пра уніяцкую царкву, якая да беларускае мовы ставіцца прыхільна. Артыкул загалоўлены: «Хто прыйдзе першы, той і будзе мець» (“First Come, First Served”). Гэтак сказаў адзін малады беларускі уніят, сэнс выказваньня якога вылучаны жырным шрыфтам на першай старонцы артыкулу: «Пасьля 70 гадоў пад камунізмам беларусы галодныя на рэлігійную веру. Але мала хто прапаведуе сярод іх на іхнай мове. Гэта можа адкрыць шлях сэктанцтву, калі Царква (г. зн. Каталіцкая царква — рэд. «Беларуса») не пачне дзеіць першай».

Артыкул Веры Рыч (ведамай паэткі, перакладчыцы і спрыяльніцы беларускаму нацыянальнаму адраджэньню) грунтоўна апрацаваны і напісаны з прыхільнасьцяй да беларускай мовы. Аўтарка прыводзіць навейшыя неафіцыйныя статыстычныя дадзеныя аб рэлігійных веравызнаньнях у сучаснай Беларусі (сабраныя фірмай «Адлюстраваньне»), якія падаём ніжэй.

| *Рэлігія* | *Па рэспубліцы* | *У Менску* |
|---|---|---|
| Праваслаўныя | 77,2% | 66,7% |
| Каталікі | 6,0% | 9,5% |
| Уніяты | 1,1% | 1,5% |
| Пратэстанты (розныя) | 1,1% | 1,3% |
| Гэбрэі | 0,2% | 0,5% |
| Абыякавыя (атэісты, агностыкі і інш.) | 19,4% | 10,5% |

## ЗАЯВА
### Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады (БСДГ)
### «Да гадавіны ўтварэньня Садружнасьці незалежных дзяржаў»

Стварэньне Садружнасьці Незалежных дзяржаў зьявілася адзіна магчымым цывілізаваным спосабам дэмантажу апошняй імпэрыі, які папярэдзіў як яе некантралюемы развал, так і магчымыя спробы яе гвалтоўнага ўзнаўленьня, што́ магло прывесьці да катастрафічных вынікаў (як гэта адбылося ў Югаславіі). Яно дазволіла паканчыць зь няпэўнасьцю статуса суб'ектаў былога Саюзу, якія атрымалі магчымасьць свабоднага дзяржаўнага самавызначэньня і свабоднага, раўнапраўнага ўзаемасупрацоўніцтва.

ЦР Грамады канстатуе, што недастатковая эфэктыўнасьць Садружнасьці, у чым яе абвінавачваюць многія, выклікана ў многім аб'ектыўнымі абставінамі — надта ўжо розныя па эканамічнаму развіцьцю, культурных традыцыях, палітычных інтарэсах рэспублікі ўваходзілі ў былую «новую гістарычную супольнасьць». Таму, разглядаючы СНД як важны стабілізуючы фактар на тэрыторыі значай часткі былога Саюзу, Грамада лічыць прыярытэтным для Беларусі ў дачыненьнях з усімі дзяржавамі былога СССР разьвіцьцё двухбаковых адносін.

Узаемадзеяньне ў рамках Садружнасьці не павінна ператвараць СНД у замкнёную групіроўку, а мусіць разглядацца як адзін з фактараў будаўніцтва «агульнаэўрапейскага дому», усталяваньня атмасфэры даверу і ўзаемаразуменьня паміж народамі і дзяржавамі сьвету.

5 снежня 1992 г.

**Цэнтральная Рада БСДГ**

## ІНТЭРВ'Ю З ШУШКЕВІЧАМ: ЯК ТВАРЫЛАСЯ СНД

Ньюёркская газэта «Новое Русское Слово» (13-14 лютага) зьмясьла вялікае інтэрв'ю (передрукаванае з маскоўскага часапісу «Огонёк», № 6, 30.І. — 6.ІІ.93) карэспандэнта Леаніда Прудоўскага са Старшынём Вярхоўнага Савету Беларусі Станіславам Шушкевічам. Цікавая, між іншага, рэакцыя масквіча, які прыехаў у беларускую сталіцу. Яго зьдзівіла, што ўдзень менскі мэтрапалітэн пусты. «Як выяўляецца, — піша Прудоўскі, — удзень людзі ў мэтро амаль ня езьдзяць. Яны працуюць... Таннае мяса па ўсіх магазынах. Уражаньне пасьля Масквы такое, што ты трапіў у іншы сьвет».

Гутарка са сп. Шушкевічам вялася на тэму белавежскага пагадненьня 1991 году аб стварэньні Садружасьці Незалежных Дзяржаваў (СНД), аб сучасным войску на Беларускі ды нацыянальным пытаньні.

СНД ня мела нейкага аднаго ініцыятара, сказаў Шушкевіч, гэта твор калектыўны. Спачатку Старшыня ВС Беларусі дагаварыўся з Прэзыдэнтам Барысом Ельцынам аб прыездзе апошняга ў Менск. Тады Шушкевіч, які чуў, што ўкраінскі Прэзыдэнт Леанід Краўчук быў-бы не ад таго, каб таксама прыехаць, стэлефанаваўся з Краўчуком і запрасіў яго. Прыляцеў Краўчук. Калі Шушкевіч зь Ельцынам паказалі Краўчуку камунікат, які яны прапанавалі выдаць, Краўчук сказаў: «Дзеля гэтага толькі дык і ляцець не аплачвалася! Пойдзем далей!» «Мы дагаварыліся, — сказаў Шушкевіч, — і паляцелі ў Белавежскую пушчу, каб ісьці далей».

Гаворачы пра войска на Беларусі, Старшыня ВС РБ сказаў, што Беларусь самая «ваенізаваная» з усіх рэспублік былога Савецкага Саюзу. Але войска ў рэспубліцы не сваё, — зазначыў Шушкевіч, — «прызыўнікоў зь Беларусі — толькі 20 працэнтаў. Пераважна тут расейскія войскі».

Адказваючы на пытаньне карэспандэнта, ці рэальны саюз славянскіх дзяржаваў, Шушкевіч сказаў: «Касьцямі беларусаў пакрытыя шмат якія мясьціны ў Сібіры і Магадане. Я думаю, што цяпер у нас яшчэ залішне сьвежыя ўспаміны аб усім гэтым, каб ісьці на такі саюз».

Пра беларуска-расейскія дачыненьні Шушкевіч сказаў: «Усе мы так ці інакш стварaем вобраз ворага. Я нават сябе на гэтым лаўлю. І ў нас у парлямэнце былі гэткія спробы. Я думаю, што нас на гэтым не ашукаюць. Разумееце, у нас нутраная абароненасьць. Беларус ніколі ня будзе ворагам расіянскага і расейскага чалавека».

Згуртаваньне беларусаў сьвету
«Бацькаўшчына»
паведамляе, што

**Першы зьезд беларусаў сьвету будзе праходзіць у Менску 8-10 ліпеня 1993 г.**

ў памешканьні Дзяржаўнага тэатру опэры й балету.

Падаваць заяўкі на ўдзел па адрасе:
220053 Менск, Даўгінаўскі тракт, 52-9
Старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына» — Яўген Лецка. Тэлефон і факс: 37-05-44
Намеснік старшыні па далёкаму замежжу — Леанід Казыра (тэл. хата: 38-44-37).
Тэл. «Бацькаўшчыны»: 27-32-38

## ЭКАНАМІЧНАЯ РЭКЛЯМА БЕЛАРУСІ

Папулярная амэрыканская газэта USA Today апублікавала 8 лютага 1993 г. вялікі эканамічны дадатак (20 ст.), падтрыхтаваны кампаніяй United World Ltd. Inc. Дадатак, багата ілюстраваны, прысьвечаны Украіне, Беларусі, Урагваю, Чылі, Мальце і Кіпру. На чатырох каляровых старонках газэты расказваецца пра сучасную Беларусь, ейны прамысловы й гандлёвы патэнцыял, пра ход прыватызацыі і гатовасьць рэспублікі да эканамічнага супрацоўніцтва.

На Беларусі цяпер, кажа старшыня Беларускай гандлёвай палаты Ўладзімір Лясун, зарэгістравана 576 супольных прадпрыемстваў з замежнымі партнэрамі. Зь іх 44 з амэрыканскімі партнэрамі. Па колькасьці супольных прадпрыемстваў на першым месцы стаіць Польшча, на другім Нямеччына, на трэцім Амэрыка. З 48 прадпрыемстваў, што належаць чужынцам, восем амэрыканскіх.

## ВІТАЛІ ШЧЭРБА Ў ЗША

Шасьціразовы чэмпіён барсэлёнскай Алімпіяды беларускі гімнаст Віталі Шчэрба атрымаў у лютым сёлета ў Нью-Ёрку прэстыжную ўзнагароду імя Джэсі Оўэнса. Оўэнскія ўзнагароды даюцца раз на год найвыдатнейшаму ў сьвеце спартсмэну, якому ўласьцівыя высокія людзкія і спартыўныя якасьці.

21-гадовы мянчанін Віталі Шчэрба знаходзіцца цяпер з жонкай (якая чакае дзіцяці) у Злучаных Штатах, у спартыўным гарадку ў Пэнсыльваніі. У сакавіку сёлета Шчэрба будзе браць удзел у адкрытым чэмпіянаце на Кубак Амэрыкі, пасьля паедзе на спаборніцтвы ў Нямеччыну, адтуль — у Менск, дзе будзе рыхтавацца да сёлетняга сусьветнага чэмпіянату ў Бірмінгэме. Ягоная жонка пляную прабыць у Амэрыцы 8-9 месяцаў пасьля родаў. Пра свае далейшыя пляны Шчэрба нічога канкрэтнага не гаворыць, сказаў толькі, што амэрыканскім грамадзянінам ён станавіцца ня зьбіраецца. (Паводля ІТАР-ТАСС, «НРС», 13-14.02.93).

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# НАВЕДАНЬНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне; пачатак у нумары 395-м)*

**У Жыровіцкім манастыры**

Адведаўшы крыху родных, невялікая група ў складзе Лук'янчыкаў Анатоля, Натальлі і Лены, Мані Нэстар, Олі Лукашэвіч, Іры Прэніц (Трацяковае) і Кастуся Калошы наведала 7 жніўня Жыровіцкі манастыр. Нас прыняў Епіскап Наваградзкі і Лідзкі Канстанцін, рэктар Менскай духоўнай сэмінарыі. Ён прызначыў двух сэмінарыстаў, якія добра гутарылі пабеларуску, і яны паказалі нам царкву, капліцы, будынкі манастыра. У манастыры цяпер праводзяцца рамонты, рабіць якія шмат дапамагаюць людзі сваёй ахвярнай працай.



*У Жыровіцкім манастыры зь Епіскапам Наваградзкім і Лідзкім Канстацінам (жнівень 1992 г.)*

У канцылярыі Ўладыка Канстанцін выслухаў інфармацыю пра наша наведаньне Беларусі і пра клііўлендзкую царкву Жыровіцкае Божае Маці. Ён паведаміў, што цяпер у Жыровіцкі манастыр прыяжджае шмат турыстаў. Прыкладам, таго-ж самага дня прыехала аўтобусамі звыш 200 дзяцей. Што да сэмінарыі, дык навука ў ёй чатырохгадовая. Ужо адбыліся два выпускі. У сэмінарыі апрача славянскай мовы выкладаецца і беларуская. Кандыдатаў у сэмінарыю шмат. На наступны школьны год прыйшло 150 заяваў, але з прычыны нястачы памешканьняў прыняць можна толькі 50 асобаў. Цяпер, сказаў уладыка, мы дасталі ад ураду трэці паверх будынку, зробім рамонт і пашырым сэмінарыю. Пасьля пачастунку кавай, чаем і печывам уладыка паказаў нам клясныя і жыльлёвыя пакоі сэмінарыстаў. На разьвітаньне ён падарыў клііўлендзкай царкве вялікую ікону Беларускіх сьвятых і вышываныя ручнікі для ўпрыгожаньня яе, а мы із свайго боку — грашовую ахвяру на рамонт будынку сэмінарыі.

**Мэдыкамэнты: у Менск і іншыя гарады**

Прывезеныя з Амэрыкі мэдыкамэнты мы не перадалі ўсе ў Менску, куды іх найбольш прывозяць, а павезьлі і ў іншыя гарады. Гэтак, у Менску мы пакінулі частку (10 пачак) у 9-м гарадзкім клінічным шпіталі. Нас спаткаў там галоўны доктар Леанід Бардзіян, зь якім быў і карэспандэнт ад прэсы. К. Калоша паведаміў, што гэтыя мэдыкамэнты — падарунак ад беларускае праваслаўнае царквы ў Кліўлендзе. У сваёй канцылярыі др. Бардзіян сказаў нам, што шпіталі маюць праблему зь лекамі, якіх не стае, бо ў Беларусі няма фармацэўтычные прамысловасьці, прадукуецца толькі адзін гатунак. Раней мэдыкамэнты прывозілі з Усходняй Нямеччыны, Чэхаславакіі, а цяпер гэтага ня робяць. Надзея толькі на тое, што некалі ў Беларусі будуць пабудаваныя свае фабрыкі лекаў. Не стае таксама сучасных апаратаў і прыладаў.

Другую частку мэдыкамэнтаў (10 пачак) сям'я Анатоля Лук'янчыка перадала ў дзіцячы абласны шпіталь у Берасьці. Доктар Л. Пастаялка вельмі добра прыняла ахвярадаўцаў, паказала шпіталь і расказала пра цяжкасьці, якія яны маюць з хворымі, ізноў пра недахоп мэдыкамэнтаў, апаратуры. Разьвітваючыся, яна перадала пісьмовую падзяку ад шпіталя.

Апошнюю частку мэдыкамэнтаў К. Калоша перадаў дзіцячаму абласному шпіталю гор. Баранавічы на аэрапорце праз сваю дваюрадную сястру Марыю Кайко, якая працуе доктарам у тым шпіталі. Калі пазьней ён прыехаў у Баранавічы, дык галоўны доктар Уладзімір Зяневіч запрасіў яго ў шпіталь, абвёў па ім, паказаў пляны новага дзіцячага шпіталя, што будзе пабудаваны за горадам. На сустрэчы зь лекарамі шпіталя К. Калоша расказаў пра мэдычнае жыцьцё ў Амэрыцы: шпіталі там прыватныя, а не дзяржаўныя, дактары працуюць у шпіталёх або маюць свае практыкі, лячэньне вельмі дарагое, але кошты пакрывае ў асноўным мэдычнае страхаваньне. На разьвітаньне доктар Зяневіч падзякаваў за мэдыкамэнты, а Калоша пажадаў добрых удачаў у будаўніцтве новага шпіталя.

**Падсумаваньне**

Гэта было адно з найбольшых арганізаваных падарожжаў беларускіх эміграантаў на Бацькаўшчыну. У правядзеньні гэтага мерапрыемства трэба адзначыць тры галоўныя дзейнікі. Сяргей Карніловіч зарганізаваў гэтае падарожжа ў Амэрыцы. Спансаравала паездку Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ў Менску. Візы-ж нам забясьпечыў, а некаторыя ўручыў перад самым адлётам на аэрапорце ўжо, прадстаўнік беларускай місіі пры ААН сп. Уладзімір Сакалоўскі.

Нам было вельмі цікава наведаць беларускія гарады, пабачыць у Менску музэй, Батанічны сад, помнікі, наведаць родныя вёскі, гістарычныя мясьціны, цэрквы, манастыры. Прыемна было пазнаёміцца зь некаторымі ўрадаўцамі, пісьменьнікамі, якія нас прымалі вельмі добра, радасна было ад сустрэчаў з роднымі, якіх мы ня бачылі так доўга.

Паколькі цяпер ёсьць магчымасьць свабодна езьдзіць на Беларусь, шмат хто з эміграантаў будзе наведваць Бацькаўшчыну. Пажадана было-б, каб беларуская ўлады забясьпечылі як мага прасцейшы спосаб атрымоўваньня візаў, каб безь вялікіх цяжкасьцяў іх можна было даставаць на аэрапорце ў Менску. Таксама вельмі важна мець загадзе інфармацыйную літаратуру пра сёньняшнюю Беларусь: якія найцікавейшыя ў ёй гарады, гістарычныя мясьціны, замкі, цэрквы, манастыры, музэі, помнікі, навуковыя ўстановы, курортныя мясьціны і г.д.? Гэта шмат дапаможа беларускім эміграантам і турыстам наладжваць цесную лучнасьць зь беларускім грамадзтвам і прыгожым беларускім краем.

**К. Калоша**

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ У РЫЧМАНД-ГІЛЕ

Мітрапаліт Беларускай Праваслаўнай Царквы і Патрыяршы Экзарх на Беларусі Ўладыка Філарэт, які па сваіх справах быў у Нью-Ёрку, наведаў пасўдні ў нядзелю 7 лютага царкву Сьв. Кірылы Тураўскага ў ньюёркскім раёне Рычманд-Гіл. Дастойнага наведніка сустрэлі з хлебам і сольлю а. ігумен Грэгары, настаяцель прыходу, старшыня царкоўнай управы сп. Канстанцін Мерляк і прыхаджане ды запрошаныя госьці, а маленькая Антаніна Дышленка падала яму кветкі. Уладыка блаславіў усіх у царкве, а хор прапяяў яму «Многая лета» і «Іспола эці дэспота».



*Мамэнт вітаньня Мітрапаліта Філарэта ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле ў Нью-Ёрку 7 лютага 1993 г.*

Прывітальнае слова ўладыкі, сказанае ім з амбону па-расейску, пераклала на ангельскую мову сп-чна Ліна Анурова. Вернікам, якія падыходзілі да яго пад блаславенства, Мітрапаліт дарыў на памяць іконку і паштоўку з выявяю Божай Маці Менскай зь Дзіцём.

Пасьля ў царкоўнай залі адбылося ў гонар ўладыкі прыняцьцё, на якім былі сярод іншых пасол Беларусі пры ААН сп. Генадзь Бураўкін са спадарыняй, др. Янка Запруднік, сп. Францішак Бартуль, праф. Ала Орса-Рамана. З прывітальным словам за бяседным сталом выступіў сп. К Мерляк. Ён падзякаваў Богу за гэтае спатканьне, дзякаваў Мітрапаліту за наведаньне царквы ды перадаў ад імя прыхаджанаў і беларускага грамадзтва наагул просьбу да ўладыкі прыкласьці працы і добрых намераў, каб Беларуская Праваслаўная Царква (як і ўся Беларусь) сталася незалежнай як ад Варшавы, гэтак і ад Масквы. Із свайго боку прамоўца паабяцаў маліцца і працаваць, каб гэтае пажаданьне збылося.

На ягоную прапанову Мітрапаліту было прасьпяванае шчырае і гучнае «Многае лета».

За бяседным сталом разгарнуліся гутаркі, бо Ўладыка Філарэт даволі гаваркі чалавек і выклікае да сябе сымпатыі. Гаварылі аб падзеях, царкоўных і сьвецкіх сьвяткаваньнях. Уладыка запрашаў сваіх субяседнікаў прыехаць у Менск на сьвята 200-годзьдзя Менскае епархіі, якое будзе адзначацца 25-27 чэрвеня сёлета. Мітрапаліт падарыў царкве, як і некаторым асобам, кніжкі. Таксама і яму былі падараваныя кніжкі, памятныя фатаграфіі.

Час у ўладыкі быў абмежаны. Пасьля кароткай перакускі і кубка кавы зь печывам візыт закончыўся малітвай. Праводзілі высакадастойнага гасьця да аўтамабіля вялікай грамадой. Прыемна было бачыць яго ў нашай царкве. Да наступнага спатканьня, Уладыка Філарэт.

**Васіль Шчэцька**

## ЗЬ ЯРДАНСКАЙ ВАДОЙ

Як штагоду, а. Архімандрыт Карп Стар, настаяцель прыходу БАПЦ у Дораты, Нью-Джэрзі, наведаў сёлета хаты праваслаўных беларусаў Лёнг-Айленду і Нью-Ёрку зь ярданскай вадой, малітваю і блаславенствам. Дапамагалі яму ў гэтым сп-тва Кастусь і Марыя Вераб'і. Людзі былі ўдзячныя а. Карпу, што ён, незважаючы на вялікую адлеглась ад Дораты да Лёнг-Айленду, дапамагае ім захоўваць традыцыі, аказвае духовую апеку.

## УШАНАВАНЬНЕ СП. ЯЗЭПА АРЦЮХА

Гарадзкая ўправа каліфарнійскага гораду Торэнсу (140 тыс. жыхароў), дзе жыве рэдактар англамоўнага «Беларускага Агляду» Язэп Арцюх, ушанавала сп. Арцюха за ягоную грамадзкую актыўнасьць. Сп. Арцюх быў ад 1986 году сябрам дарадчай камісіі, заданьнем якое было сачыць за кабельным тэлебачаньнем з мэтай ягонага ўдасканаленьня шляхом адпаведнага заканадаўства. На працягу амаль сямігадовай дзейнасьці ў камісіі, як сказала мэр Торансу сп-ня Кейты Гайсэрт на паседжаньні гарадзкой управы, сп. Арцюх выявіў адданасьць справе і працавітасьць. Мэр пажадала сп. Арцюху ўдачы на ягоным новым грамадзкім становішчы як сябры гарадзкой камісіі па пытаньнях аэрапорту. Мэр таксама адзначыла вялікую важнасьць рэдагаванага й выдаванага сп. Арцюхом часапісу «Беларускі Агляд».

Як падала менская газэта «Культура» (30.11.92), на Беларусі налічваецца «звыш сотні» падпісчыкаў «БА», сярод якіх — Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка, Зянон Пазьняк.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯЎЧАТКІ НА ЧЭМПІЯНАЦЕ СЬВЕТУ

У жыцьці кожнага чалавека бываюць неспадзеўкі: добрыя й дрэнныя, прыемныя й няпрыемныя, радасныя й сумныя. Вось-жа і мне ў сыботу 21 лістапада давялося неспадзявана сустрэцца зь неспадзеўкай, гледзячы тэлеперадачу з сусьветнага чэмпіянату спартыўна-рытмічнай гімнастыкі. Зьява сама па сабе банальная, бо не ўпяршыню бачыў падобныя спартовыя прэзэнтацыі. Але раптам пачуў абвестку анонсэра, што выступае група зь Беларусі. Тут-жа выходзяць на сцэну шасьцёра маладзенькіх дзяўчатак зь істужкамі ў руках і зь бел-чырвона-белымі сьцяжкамі, прышытымі на левым рукаве. На экране зьявіўся надпіс Biélorussie і ў скароце BLS зь бел-чырвона-белым сьцягам.

Ад гэтай прыемнай неспадзеўкі сэрца ў мяне паскорыла рытм. І зусім зразумела: упяршыню ў маім жыцьці здараецца бачыць нашых гімнастак, якія афіцыйна прадстаўляюць Беларусь як незалежную дзяржаву пад ейным нацыянальным сьцягам.

Група ў складзе шасьці дзяўчатак выканала свой нумар першаклясна, хоць час ад часу і здараліся маленькія недакладнасьці. Камэнтатар тэлебачаньня робіць заўвагу, што спартыўны патэнцыял былога Савецкага Саюзу вялізарны, аб чым сьветчыць выкананьне гэтай групы. Пытаньне толькі, ці ўсё было справядліва разьдзелена. Паводля яго, калі беларускі робяць некаторыя маленькія памылкі, дык паўстае пытаньне, ці атрымала Беларусь у спадчыну такіх самых трэнэраў, як, прыкладам, Расея.

Да гэтага мушу дадаць больш сумны факт, пра які газэта «Ля Лібр Бэльжык» (21/22.XI) даслоўна пісала: «Пакінуўшы збоку цяжкія перашкоды, робленыя нашымі (бэльгійскімі) уладамі ў атрыманьні візаў, можна лёгка прабачыць некаторыя памылачкі, ведаючы, што беларускі ехалі аўтобусам 48 гадзін, каб прыбыць раніцою першага дня спаборніцтваў...». Трэба сказаць, што змучанасьць беларускіх гімнастак заўважалася на іхных тварах. Недарма ў адной газэце была заўвага: «ня відаць у іх усьмешак, выглядае, быццам нясуць яны цяжар усяго сьвету на сваіх плячах...».

Як-бы там ні было, аднак, трэба прызнаць, што нашыя прадстаўнічкі добра рэпрэзэнтавалі Беларусь.

З рэспублік былога Савецкага Саюзу былі прадстаўленыя толькі шэсьць: Беларусь, Расея, Украіна, Летува, Эстонія й Латвія. Як адзначылі бэльгійскія газэты, па выніках выступленьняў Беларусь апынулася ў сярэдзіне, балцкія спартсмэнкі засталіся ў хвасьце. У камандным заліку беларускі выйшлі на пятае месца.

На жаль, ня меў нагоды бачыць выступленьне нашае «салісткі» Ларысы Лук'яненка, якая здабыла два залатыя мэдалі (за практыкаваньні са шнурком і за мячык) ды адзін бронзавы, гэты апошні сярод 36 спаборніц.

**Янка Жучка**

*Ліст у Рэдакцыю*

## АБ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ Ў ВІЛЬНІ

Шаноўныя сябры!

Вось ужо год у Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце на факультэце славістыкі існуе беларускае аддзяленьне і катэдра беларусазнаўства. Летась прыступілі да заняткаў студэнты II курсу гэтага аддзяленьня. Мы рыхтуем выкладчыкаў, у першую чаргу пачатковых клясаў, беларускай мовы і літаратуры і літуаністаў. На сёньняшні дзень — гэта адзінае месца ў Летуве, дзе тутэйшыя беларусы могуць атрымаць адукацыю на роднай мове, і пасьпяховая праца аддзяленьня зьяўляецца адзінай надзеяй на аднаўленьне ў нашай былой сталіцы беларускага школьніцтва і адпаведнай Вільні культуры.

Катэдрай беларусазнаўства распачата праца па адраджэньні славутай Віленскай беларускай гімназіі і Таварыства беларускай школы. Напярэдадні дзяржаўных перамоваў паміж Беларусьсю і Летувою для беларусаў Вільні настаў спрыяльны палітычны момант, таму спадзяемся, што ў верасьні наступнага году здолеем зрабіць урачыстае адкрыцьцё адноўленай гімназіі.

Тутэйшае карэннае насельніцтва дагэтуль размаўляе збольшага на беларускіх дыялектах, хаця за 50 гадоў камуністычнага панаваньня ў значнай меры пачало лічыць сябе палякамі. Аднаўленьне школьніцтва і сыстэмы вышэйшай адукацыі на роднай мове ўжо спрые звароту да беларускасьці, што ілюструе нацыянальны склад нашых студэнтаў, якія ў асноўным запісаны палякамі.

Рост беларускай сьвядомасьці ў Віленскім краі — гэта праблема ня толькі віленскіх беларусаў, але таксама ўсёй Беларусі і беларускага сусьветнага супольніцтва, бо гэткім чынам мы хоць так вяртаем Вільню беларусам.

Зьвяртаемся да сваіх суродзічаў з просьбаю аб фінансавай і мэтадычнай дапамозе для аднаўленьня беларускай гімназіі, ТБШ і ўсёй сыстэмы беларускай адукацыі на Віленшчыне.

З павагаю і пажаданьнямі найлепшага

**Лілея Плыгаўка,** заг. катэдры беларусазнаўства
**Генрых Пяткевіч,** арганізатар-дырэктар Віленскай беларускай гімназіі

### «БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР»

Выйшаў сёмы нумар гэтай газэты. У ім цікавыя артыкулы аб калекцыяваньні картак, марак і іншых друкаў, прысьвечаных Якубу Коласу; аб гісторыі фальшываманэтства на Беларусі; аналіз манэтных скарбаў, знойдзеных на пляцы Волі ў Менску, ды зацемкі аб марках Беларускай Народнай Самапомачы, крыжы Булак-Балаховіча. Газэта рэгіструе выдадзеныя беларускія маркі Рэспублікі Беларусь і падае адрасы калекцыянераў, якія жадаюць абменьвацца дублікатамі розных калекцыяў.

Мы ўжо адзначалі піянерскую ролю газэты «Беларускі Калекцыянер». Сёньня мы яшчэ раз з прыемнасьцю мусім адзначыць, што «Беларускі Калекцыянер» завёў новую рубрыку: «Працуем над філятэлістычным слоўнікам» ды выдрукаваў пачатак беларускае філятэлістычнае тэрміналёгіі.

Зацікаўленыя калекцыянеры замежжа для атрыманьня газэты могуць пісаць на адрас:

Рэспубліка Беларусь
211030, Орша
вул. Флёрава 7, кв. 16,
Сярожкіну Алесю
або
220131, Менск-131
п/с 417
Цярохіну Ўладзіміру

## «БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ»

**Квартальнік Татарскага Грамадзка-Культурнага Аб'яднаньня «Аль-Кітаб»**

У прадмове да першага нумару гэтага цікавага квартальніка, што пачаў выходзіць у 1991 годзе у Менску, сказана: «На зямлі высакароднага, зычлівага і працавітага народу — беларусаў жыве жменька татараў. Іх так мала, што ў звычайных даведніках колькасьць не пазначаецца, бо складае каля 0,12% ад насельніцтва Беларусі. Калі-ж паліччыць, колькі засталося нашчадкаў татараў, што пасяліліся на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XIV стагодзьдзя, то іх яшчэ менш. Прайшло ўжо амаль 600 гадоў, як мы жывём воддаль ад сваёй былой радзімы — Паволжа і Крыму, але мы ня выракліся свае веры — Ісламу і свайго імя. Часам ад паволжскіх або крымскіх татараў можна пачуць папрок, што мы ня ведаем татарскай мовы. Мы карыстаемся даўно нам роднай беларускай мовай, гаворым на рускай мове, разумеем польскую, украінскую. А галоўнае, мы выхоўваем сваіх дзяцей сумленнымі і працавітымі грамадзянамі, якія маюць гонар называцца татарамі ў любых абставінах. А што тычыцца татарскай мовы, то прыйдзе час і ў нас будуць свае татарскія школы».

Квартальнік «Байрам», які выходзіць па-беларуску, прызначаны паспрыяць культурнаму адраджэньню татараў. У першым нумары часапісу было адзначана, што «вялікую дапамогу» Татарскаму Аб'яднаньню «Аль-Кітаб» аказалі Грамадзка-палітычны цэнтар пры Менскім абкоме КПБ, Дзяржаўная бібліятэка БССР ды шэраг дзеячоў беларускай культуры (названа 61 прозьвішча пісьменьнікаў, гісторыкаў і інш.)

Памагаюць выдаўцом «Байраму» і замежныя сымпатыкі. Гэтак, сёлетні 3-ці нумар часапісу (76 стар.) выйшаў, як у ім зазначана, «за кошт нашых добрых сяброў — Яна Запрудніка (ЗША) і Паўля Сутэра (Швайцарыя)».

Часапіс выходзіць ратапрынтнай тэхнікай тыражом паміж 500 і 300 экз. Кожны нумар запоўнены цікавым матар'ялам з гісторыі, культуры, фальклёру і вераваньняў татарскага народу; даюцца элемэнты татарскае мовы і Курану, Сьвятога Пісьма мусульманаў.

Калі-б хто-небудзь з чытачоў «Беларуса» захацеў даставаць гэты часапіс, а заадно і дапамагчы яму выходзіць далей, просім пісаць на адрас: 220090, г. Менск, Лагойскі тракт, д. 27, кв. 77, Якубу Якубоўскаму.

### «ПОЛАЦАК» № 10(20)

У гэтым нумары выданьня Беларускага Культурна-Асьветнага Цэнтру ў Кліўлендзе чытач прачытае: сьвяточныя прывітаньні часапісу ад Мітрапаліта Менскага й Слуцкага Філарэта, рэктара Менскай Духоўнай Сэмінарыі Епіскапа Навагрудзкага і Лідзкага Канстантына, Васіля Быкава, Анатоля Белага; артыкулы: М. Белямук — Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў; Паўла Урбан — Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў (працяг); Язэп Юхо — Утварэньне Вялікага Княства Літоўскага; Анатоль Сабалеўскі — На хвалі беларускага Адраджэньня; Радзім Гарэцкі — Багацьце нетраў Беларусі; Уласнаручныя паказаньні Канстантына Езавітава; Масей Сяднёў — Чалавечае ў паэзіі Генадзя Бураўкіна; Марат Баскін — Як Янка ў лес хадзіў; Сьвятлана Белая — Першы сьнег; Анатоль Старадарожскі — 75-я ўгодкі І-га Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску; гімн таварыства «Спадчына» (словы Анатоля Зэкава, музыка Галіны Смоляк); Кастусь Калоша — Чатырнаццаць дзён па Беларускаму часу; хроніка з жыцьця эміграцыі. Нумар (64 ст.) багата ілюстраваны.

### *«БЕЛАРУСКІЯ МУСУЛЬМАНЕ І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА АРАБСКІМ ПІСЬМОМ»*

Пад гэткім загалоўкам выйшла ў Вільні ў 1933 годзе брашура др. Яна Станкевіча (34 ст. друку). У ёй дадзеная гісторыя пасяленьня татараў на Беларусі і разглядаецца створаная імі беларускамоўная літаратура. Брашура перавыдадзеная цяпер менскім Беларускім каапэрацыйна-выдавецкім таварыствам «Адраджэньне».

### ДАСЬЛЕДУЕЦЦА ЭФЭКТ ЧАРНОБЫЛЯ

Адзін зь вядучых заходніх спэцыялістаў чарнобыльскай праблемы, прафэсар канадзкага Ўнівэрсытэту Альбэрты Дэвід Р. Марплс апублікаваў у амэрыканскім часапісе Post-Soviet Geography (№ 7, Sept. '92, pp. 419-431) грунтоўны артыкул пра эфэкт Чарнобыля на Беларусі, зазначаючы, што праблема гэтая не дасьледаваная ў англамоўнай літаратуры. Чарнобыль, піша аўтар, стаўся адней з галоўных прычынаў запавальненьня прагрэсу на Беларусі, якая пацярпела «значна больш, чым які хаця іншы рэгіён». Праф. Марплс разглядае фізычны, мэдычны і палітычны аспэкты чарнобыльскае бяды беларусаў і кажа, што «вынікі з часам пагоршваюцца».

Тарфяністыя глебы ў паўдзённай частцы рэспублікі і адносна вялікая прапорцыя лясістых мясцовасьцяў, піша Марплс, найбольш спрыяюць утрымваньню радыяактыўных асадкаў. Канадзкі вучоны прызнае, што рэспубліка сама ніяк ня зможа справіцца з чарнобыльскай бядой.

### «ГОЛАС ЧАСУ» № 21(6)

У лістападаўска-сьнежанскім нумары вадаванага ў Лёндане часапісу (44 ст.) зьмешчаныя артыкулы й нататкі: Антон Міранович — Культы сьвятых на Беларусі; С. В. Таляронак — Тайныя сьвісладкія гурткі «навуковы» і «маральны» (1819 — 1820 гады); Натальля Р. Сцяжко — Па залах музея Алеся Белакоза; В. К. — Мае горкія ўспаміны; Варанец Вінцук, Варанец Ясь — Становішча жыхароў Заходняй Беларусі ў часе польскай акупацыі; «З гонарам, што я беларус...» (інтэрв'ю Сяргея Чыгрына з паэтам Анатолем Іверсам); Юры Весялкоўскі — Першая беларуская арганізацыя ў Вялікабрытаніі і яе духоўныя і палітычныя апякуны (заканчэньне); лісты ў рэдакцыю; хроніка.

### ФАРМАЛЬНАСЬЦІ ПАДАРОЖЖА НА БЕЛАРУСЬ

Той, хто едзе на Беларусь з Амэрыкі на тэрмін да 30 дзён, запросінаў не патрабуе. Візы выдае толькі пасольства Беларусі ў Вашынгтоне. Каб атрымаць анкеты і патрэбную інфармацыю, зварачайцеся ў пасольства, залучаючы канвэрт з адваротным адрасам і маркай.
Адрас пасольства Беларусі ў ЗША:
1511 K Street, N.W., Suite 619,
Washington, D.C. 20005.
Тэлефон: (202) 638-2954

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*З жыцьця ў Чыкага*

## КАЛЯДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Ужо 15 гадоў узапар Беларускі Каардынацыйны Камітэт бярэ ўдзел у Калядным фэстывалі ў Музэі Навукі і Індустрыі. 15-га лістапада летась сябры камітэту ды іншыя ахвотнікі прыбралі нашую ялінку аздобамі з саломкі, нарыхтаванымі нашай ведамай мастачкай сп-няй Людвікай Беленіс.




*Беларускія калядоўшчыкі на сцэне ў часе паказу*

На фэстывалі, што закончыўся 5-га студзеня, было сорак ялінак і пяць батлеек, а таксама паказы эстрадных праграмаў розных этнічных групаў.

8-га сьнежня наведалі музэй рэпартэры радыястанцыі з гор. Грэнд Рапідс са штату Мічыган, каб пазнаёміцца з каляднай праграмай. Яны таксама зацікавіліся і нашай ялінкай, зьнялі на відэастужку ды ўзялі пры гэтым інтэрв'ю ў сп-ні Веры Рамук, распытваючы пра калядныя звычаі ў Беларусі. У той самы дзень сп-ня Рамук прадэманстравала перад публікай тэхніку рыхтаваньня ялінкавых аздобаў з саломкі.

У нядзелю 20-га студзеня была прадстаўлена беларуская калядная праграма, якую падрыхтавала і вяла сп-ня Вера Рамук. Заля была запоўнена гледачамі. У праграме выступілі дзьве амэрыканскія прафэсійныя сьпявачкі, Тэм Пэтыбон і Мэджэлін Нэлсан. Пад акампанемэнт а. Язэпа Сыру яны ўдала выканалі чатыры беларускія песьні: «Туман» (муз. М. Куліковіча), «Ой, ты край мой залаты» (сл. М. Кавыля, муз. Э. Зубковіч), «О, Беларусь, мая шыпшына» (Ул. Дубоўка — М. Куліковіч) і «Я ад вас далёка» (Я. Купала — М. Куліковіч).

Сп-ня В. Рамук паінфармавала пра Беларусь, ілюструючы свае словы 36 слайдамі беларускіх краявідаў, будынкаў у Менску, вырабаў майстроў, расказала пра беларускія калядныя звычаі.

Праграму завяршылі калядоўшчыкі: да дзьвюх вышэй згаданых сьпявачак далучыліся два амэрыканскія прафэсійныя сьпевакі, Пол Джын і Элан Бэргер ды выканалі беларускія калядкі: «Нова радасьць», «Ой, на моры, моры», «Сьвецяць зорачкі», «Саўка ды Грышка», «Неба і зямля» і «Ціхая ноч» (апошнюю па-беларуску і па-ангельску). За кожную песьню публіка ўзнагароджвала выканаўцаў бурнымі воплескамі. За калядоўшчыкамі стаяў з каляднай зоркай Васіль Багдан.

Пад канец апошняй калядкі выйшла на сцэну дзяўчынка ў нацыянальным касьцюме, Крыстына Каралюк, з надпісам «Беларусь», а за ёй дзяўчаткі Ніка Барышкевіч і Рэгіна Анджылетты ў нацыянальных строях з напісам па-беларуску: «Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага Году», а дзяўчынка Кармэля Моляры прынесла кошык з гасьцінцамі для калядоўшчыкаў.

Усю праграму зафіксаваў на відэастужку сп. Нікодэм Жызьнеўскі.

Шчыры дзякуй сп-тву Маргарэце і Васілю Багданам, Ірэне Пануцэвіч, Любе Каваленка, Нікодэму Жызьнеўскаму, Валянціну Здункевічу і сп-твам Рамукам, што дапамагалі прыбраць і разабраць ялінку, і вышэй згаданым дзяўчаткам за ўдзел у праграме.

**Др. Вітаўт Рамук**

## КАЛЯДНАЕ ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў ГУБЭРНАТАРА

**Ад Рэдакцыі:** У папярэднім нумары «Беларуса» быў зьмешчаны, атрыманы намі з прэсавага бюро губэрнатара штату Іліной сп. Джыма Эдгара здымак жонкі губэрнатара Брэнды Эдгар зь беларуска-амэрыканскай дзяўчынкай Ліндзы (памылкова названай Тыфані) Андэрсан. Ніжэй зьмяшчаем прысланую нам з Чыкага карэспандэнцыю да гэнага здымку.

17 сьнежня пад патранатам сп-ні Брэнды Эдгар было наладжанае каляднае прыняцьце для дзяцей 39 этнічных групаў. Сп-ня Пэт Міхальскі, асыстэнтка пры губэрнатары па этнічных справах, расказала аб значэньні гэтага прыняцьця для справы перахоўваньня ў маладым пакаленьні традыцыяў бацькоў.

Пасьля гэтага дзеці ў альфабэтным парадку падыходзілі да сп-ні Эдгар і дарылі ёй калядныя ялінкавыя аздобы.

Беларуска-амэрыканскую грамаду прадстаўляла на прыняцьці Ліндзы Андэрсан, дачка Марціна і Мэры Андэрсан, унучка Нікадэма і Анны Жызьнеўскіх. Ліндзы перадала сп-ні Эдгар калядны арнамэнт як сымбаль беларускай спадчыны ў Амэрыцы.

Пасьля перадачы падарункаў дзеці й бацькі былі запрошаныя на сьвяточнае прыняцьце.

**Др. Вітаўт Рамук**

## «ГОЛАС ЧАСУ» № 22(1) СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ 1993

У нумары (42 ст.): Ю. В-кі — На Новы Год (верш); **Лонданскі** — Хто выбірае беларускі дзяржаўны гімн? **Ю. Весялкоўскі** — За плотам Катынскага лесу; **Ю. Сьвяржынскі** — «Браця з-за Буга»; **П. Манькоўскі** — Палякі атрулі нам Адама Міцкевіча; **С. В. Таляронак** — Тайныя сьвіслацкія гурткі: «навуковы» і «маральны», 1819-1820 гады; **Н. Сьцяжко** — Па залах музея Алеся Белакоза. Успаміны аб Зосьцы Верас; **Ул. Пад-дубны** — Там, дзе хадзіла сьмерць; **А. Здановіч** — За Ла-Маншам, сярод беларусаў («З англійскага дзёньніка»); **М. Кукабака** — З прычыны аднаго «мерапарыемства» ў Менску, **Б. Г. Булат** — Паездка ў Беларусь, **І. Г. Антонаў** — Пашырэньне польскага тэрору і палянізацыя краю, разбазарваньне палякамі яго багацьцяў; **Ул. Пучынскі-Пірог** — Ад антысавецкага інфармбюро (з былой савецкай рэспублікі); **А. Баркоўскі** — Змова беларусаў Томску; **Ю. Сьцяпанаў** — Навіны зь Беларусі і Віцебшчыны; **Ю. Весялкоўскі** — «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі»; **А. Драянкоў** — Адраджэньне ці абуджэньне?

## АМЭРЫКАНСКІ ПРАФЭСАР АБ БЕЛАРУСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

Карэспандэнт амэрыканскай газэты The Blade (13.XII.92), якая выходзіць у гор. Таліда ў штаце Агаё, Кім Бэйтс, напісаў пра чатырохтыднёвы побыт прафэсара Талідаўскага Ўнівэрсытэту Гэнры Бургіньёна ў Менску. Праф. Бургіньён даваў ( бясплатна ) парады членам групы заканадаўцаў, якія пераглядалі трэці варыянт праекту канстытуцыі рэспублікі. Бургіньён быў першы з трох амэрыканскіх экспэртаў, вызначаных Амэрыканскай Асацыяцыяй Адвакатаў у рамках праўнай дапамогі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Ён паясьняў празь перакладчыка беларускім заканадаўцам пытаньні разьмежаваньня ўлады ды іншыя аспэкты дэмакратыі.

Пра беларускую канстытуцыю праф. Бургіньён кажа, зь ёй шмат праблемаў. Вялікая праблема перш-наперш у тым, сказаў ён, што самыя заканадаўцы ня знаюць дэмакратыі. Сярод беларускіх урадавых асобаў яшчэ пераважаюць моцныя камуністычныя пагляды, а таксама назіраецца няпрыйманьне дэмакратыі заходняга стылю і эканомікі вольнага рынку.

Сп. Бургіньён адзначыў, што канстытуцыя Беларусі ня будзе падобнай да амэрыканскае, яна ўжо ў тры разы даўжэйшая за канстытуцыю ЗША. Разам з тым, паводля яго, беларуская канстытуцыя, якая павінна быць закончана ўлетку гэтага году, мае шмат выдатных пунктаў.

Праф. Бургіньён выказаў абачлівую насьцярожанасьць з увагі на паважныя эканамічныя цяжкасьці краіны, якія могуць адмоўна паўплываць на настрой грамадзтва, выклікаючы сярод яго жаданьне павароту да папярэдняга стану. Людзі хочуць, каб было загарантавана права на памешканьне, працу і харчы.

Сп. Бургіньён сказаў, што набыў у Беларусі шмат вартаснага дазнаньня, але таксама адчуў жах, глядзячы на эканамічную сытуацыю ды выяўны дзяржаўны кантроль. Аднаго дня ён папытаўся сам у сябе: на якога д'ябла я тут? Але ў гэты мамэнт ён пабачыў праз вакно свайго гатэля школьнікаў, што стаялі ў чарзе перад лялечным тэатрам, і ад таго часу, калі яму даводзілася цяжка, думка пра дзяцей натхняла яго: «Вось чаго я тут. Тыя дзеткі будуць мець шанс некалі жыць у дэмакратычным грамадзтве».

**Др. В. Р.**

## ШЛЮБ П. ГРЫЦУКА З А. ПЛАХЦІНСКАЙ



*Вянчаньне Пятра Грыцука з Аннай Плахцінскай у беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага. Маладую пару вянчаў настаяцель прыходу а. Міраслаў Кулік. Парафіяне жадаюць маладым шчасьлівага супольнага жыцьця, дабрабыту, моцнага здароўя і ўсялякіх сямейных удачаў. Многая лета!*

**Сакратар царкоўнай управы**

*Абвестка-запросіны*

**20-Я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ**

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (26 So. Whitehead Ave.) адбудзецца 14-28 сакавіка сёлета 20-я выстаўка твораў мастакоў і ўмельцаў зь Нью-Джэрзі і іншых штатаў ЗША, Канады, а таксама Беларусі.
Усіх сардэчна запрашаем! Па інфармацыю тэлефанаваць на нумар: (908) 247-1822.

**Беларускі Мастацкі Клюб**
**У Нью-Джэрзі**

## «ПОЛАЦАК» № 1(21), 1993

У нумары (64 ст.); **С. Белая** — І гэты час прыйдзе, **Н. Здановіч, Я. Сінчук** — Пячная засланка, што датуецца расейскай манэтай; **М. Белямук** — Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў; **П. Урбан** — Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных славянаў; **Я. Юхо** — Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права; **В. Супрун** — Крэўскі замак; **А. Сярова** — Эпіталія; Уласнаручныя паказаньні К. Езавітава; **С. Белая** — Віленскія беларусы расказваюць; **Р. Галяк** — Настаўнікі Віленскай Беларускай Гімназіі; **М. Сяднёў** — Сум па духоўным Пантэоне; **П. Нядзьвецкі** — Мара (песьня); **А. Мемус** — Радасьць вяртаньня; **В. Супрун** — Наш шлях; **М. Кавыль** — І з агню ды ў полымя; **С. Грахоўскі** — Вольнай Беларусі; З жыцьця эміграцыі; **а. М. Страпко** — Сьвяты абавязак міласэрнасьці; **Я. Салавянюк** (мастацкае афармленьне).

## BELARUSIAN REVIEW, Vol. 4, No. 4 Winter 1992/93

У нумары (24 ст.): Слова да Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана. **Джоў Прайс** (рэдактар) — Пэрспэктыва перад часапісам «Беларускі Агляд». **А. Турэвіч** — Агляд падзеяў у Беларусі ў 1992 годзе. **А. Арцюх** — Беларусь і Аб'еднаныя Нацыі. **Дж. Прайс і Я. Крэўскі** — Пара дэрусыфікаваць беларускія назовы. **Г. Русак** — Марк Шагал — нараджэнец Беларусі. **Рэдакцыя** — Рэспубліканскія лідэры ацэньваюць палажэньне ў Беларусі. Лісты ў рэдакцыю.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Падаю да ведама, што Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага, Іліной, выбраў новага старшыню на 1993 год і пастанавіў сьвяткаваць сёлетнія ўгодкі незалежнасьці БНР 21-га сакавіка. Усе прывітаньні ад арганізацыяў просім слаць на адрас:

Mr. Machael Sisoi, President
Bielarusian Coordinating Committee
of Chicago
P.O. Box 34022
Chicago, IL 60634

**Вера Рамук**
сакратар Беларускага
Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага,
Іліной

P.S. Камітэт сёлета абходзіць 20-я ўгодкі ад яго заснаваньня. Камітэт быў заснаваны 25 студзеня 1973 году.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# СЬВ. ПАМ. СЯРГЕЙ ГУТЫРЧЫК

**(3.III.1923 — 3.II.1993)**

Беларускае грамадзтва Амэрыкі страціла нечакана аднаго са сваіх найбольш актыўных працаўнікоў, шматгадовага кіраўніка Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, сябру Рады БНР, шчырага патрыёта Беларусі, змагара за ейную свабоду й незалежнасьць, сьв. пам. маёра Сяргея Гутырчыка. Нябожчык меў праблему з сэрцам. Памёр раптоўна, ад чаго боль страты быў тым глыбейшы. Усяго колькі дзён да сьмерці ён плянаваў вэтэранскі сход, каб абмеркаваць бягучыя арганізацыйныя справы ды падзяліцца весткамі пра падзеі на Бацькаўшчыне, за якімі ён так уважліва сачыў, цешачыся асабліва з таго, што ўгодкі Слуцкага паўстаньня адзначаюцца ўжо ня толькі на эміграцыі, але і ў Беларусі. Апошнімі гадамі сьв. пам. С. Гутырчык і ягоная сям'я былі ў вялікіх маральных і фінансавых цяжкасьцях у сувязі з судовай справай супраць нябожчыка, якога адзьдзел Міністэрства юстыцыі ЗША падаў на суд за, быццам-бы, удзел у злачынствах у часе вайны ў Калдычэўскім канцэнтрацыйным лягеры. Нябожчык заяўляў, што ён у нічым падобным удзелу ня браў, што яго пераблыталі зь іншай асобай. Але гады паклёпаў на яго ў савецкім друку ды цьверджаньні некаторых сьветак, у тым ліку і такіх, што знайшліся ў СССР, рабілі судовую справу вельмі цяжкой для абвінавачанага, пазбаўленага магчымасьці доступу да архіўных дакумэнтаў на Бацькаўшчыне. Цяжар абвінавачаньня сьв. пам. Сяргей Гутырчык нёс вельмі мужна, нікога са сваіх сяброў і знаёмых не абцяжваў ні нараканьнямі, ні жальбамі, ні просьбамі. Бязумоўна, гэтая духовая вынослівасьць таксама каштавала яму здароўя.

Нябожчык быў ня толькі руплівым грамадзкім працаўніком, але й абыходлівым чалавекам. Пра гэта ведаў кожны, хто спатыкаўся зь ім у праваслаўнай царкве Божай Маці Жыровіцкай БАПЦ у Гайленд Парку, куды ён і жонка Літвіна, абое каталіцкага веравызнаньня, часта прыходзілі нядзелямі памаліцца ў царкве, пабачыцца зь людзьмі ў тых ці іншых справах.

Пашану і ўдзячнасьць, на якую Сяргей Гутырчык заслужыў ад суродзічаў за сорак гадоў свае грамадзкае працы ў Амэрыцы, людзі выказалі масавай прысутнасьцяй на паніхідзе ў пахавальным доме Малішэўскага ў Саўт-Рывэры ды на наступны дзень на літургіі й адпяваньні ў царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку. Багаслужбы адслужыў а. Васіль Андрэюк. У царкве, апрача сям'і памерлага — жонкі Літвіны ды замужніх дачок Лёлі й Рагнеды зь сем'ямі — было шмат суродзічаў і амэрыканскіх прыяцеляў сям'і Гутырчыкаў, прыгожа пяяў царкоўны хор у поўным складзе.

На Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, над пакрытай бел-чырвона-белым сьцягам труной, разьвітальнае слова сказаў сп. Антон Шукелайць, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, адзначаючы вялікія заслугі нябожчыка на нацыянальна-грамадзкай ніве ды беспадстаўнасьць судовых абвінавачаньняў яго. Прагучэў у супольным вакананьні жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў». Сп. Міхась Тулейка, заступнік памерлага старшыні ЗБАВ, перадаў жонцы нябожчыка бел-чырвона-белы сьцяг, якім была накрыта дамавіна.



*Адпяваньне сьв. пам. Сяргея Гутырчыка ў царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку, Н.-Дж., 6 лютага 1993 г.*

На хаўтурным абедзе, які адбыўся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры, успамінамі пра сьв. пам. С. Гутырчыка падзяліліся спсп. Міхась Тулейка, які адзначыў выдатную ролю нябожчыка ў пабудове помніка Гэроям Беларусі, што стаіць цяпер на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, Васіль Русак, Мікола Абрачык, Янка Запруднік, Міхась Белямук, Антон Шукелайць. У сьветлую памяць С. Гутырчыка прысутныя склалі 560 даляраў ахвяраў на выданьне вэтэранскага часапісу «Зважай», выхаду якога ў сьвет у вялікай меры спрыяў нябожчык.

На заканчэньне бяседы сп-ня Літвіна Гутырчык падзякавала ўсім за вялікае маральнае падтрыманьне яе і сям'і ў цяжкім горы, адзначыла вялікую духовую дапамогу, якую яна ўвесь час мела ад а. Васіля, падзякавала групе суродзічаў, што, незважаючы на сьнежную замець, прыбылі з далёкага Кліўленду, ушанаваць ейнага памерлага мужа.

Пасьля кароткай малітвы прагучэла Сяргею Гутырчыку «Вечная памяць». Будзе яна таксама сьветлая памяць.

**Янка Запруднік**

## У ВІЦЕБСКІ МУЗЭЙ ПРА ВІЦЕБЛЯНАЎ

Віцебскі краязнаўчы музэй працуе над стварэньнем новай экспазыцыі. У ёй будзе расказвацца аб некаторых эмігрантах зь Віцебшчыны, якія змушаны былі пакінуць радзіму ў 1917-1920-х гадах. Калі хто-небудзь з чытачоў «Беларуса» мае матар'ялы для гэткай экспазыцыі або ведае адрасы людзей, што паходзяць зь Віцебшчыны, просім скантактавацца з музэем, пішучы на адрас:

Упраўленьне культуры Віцебскага аблвыканкому
Віцебскі абласны краязнаўчы музэй
210026 Віцебск
вул. Леніна, 36
Дырэктару Л. Д. Кузьменку

# ПРЫКЛАД І НАТХНЕНЬНЕ

Сёлета 3-га лютага адыйшоў на вечны супачын Сяргей Гутырчык, што быў прыкладам і натхненьнем для нашых суродзічаў у дыяспары, якія змагаліся за вызваленьне Беларусі з-пад ярма «імпэрыі зла». Да Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў належалі калішнія ўдзельнікі Слуцкага паўстаньня, Беларускае Самаахова і хаўрусьніцкіх арміяў з Другой сусьветнай вайны дый амэрыканцы, удзельнікі пазьнейшых войнаў супраць камуністычных дзяржаваў.

Рэкляма ў Амэрыцы мае вагу ня толькі ў гандлі. З гэтай прычыны беларускія нацыянальныя, вэтэранскія ды амэрыканскія сьцягі ў руках нашых вэтэранаў на вуліцах Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Вашынгтону, Кліўленду й іншых амэрыканскіх гарадоў рэклямавалі непахісную волю Беларускага Народу да змаганьня за вызваленьне з-пад маскоўска-бальшавіцкага ярма на працягу дзесяткаў гадоў. І на чале тых маршаў і дэманстрацыяў найчасьцей ішоў, побач зь іншымі, камадзер ЗБАВ Сяргей Гутырчык.

У 1974 годзе ў Манчэстары ў Англіі адбылася Першая сусьветная сустрэча беларускіх вэтэранаў, на якой прысутнічалі былыя вайскоўцы-беларусы з Амэрыкі, Эўропы і Аўстраліі. Сустрэча тая мела і гістарычную вагу, бо адзначыліся 30-я ўгодкі пераходу кадэтаў з калішняе Школы Канмандзераў БКА да хаўрусьнікаў у Францыі каля Клервала ў жнівені 1944 году. У Манчэстары ў 1974 г. паўстаў Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў і пасьля пачаў выходзіць вэтэранскі часапіс «Зважай». Актывізацыя беларускіх вэтэранаў у Амэрыцы, іхная «рэклямная» дзейнасьць, выдавецтва заселі косткай у горле маскоўска-бальшавіцкай прапагандзе.

Прыгадаем тое, што да чэрвеня 1941 году Сталін памагаў свайму «саюзьніку — вялікай Германіі» багатымі рэсурсамі краіны. Пасьля Другой сусьветнай вайны Масква паклікала на помач усе свае прапагандовыя сілы, каб пераканаць сьвет, што быццам яна сама перамагла «фашыстоўскую Нямеччыну». Амэрыка, Англія, Францыя ў той вайне, паводля Масквы — гэта дробязь. Беларусаў, што апынуліся на эміграцыі і якіх КДБ Голікава (з дапамогай амэрыканцаў і іншых «хаўрусьнікаў») не ўдалося палавіць і дэпартаваць на сьмерць у Гулаг, Курапаты ці іншы Воўчы Хвост — Масква й Менск пад яе загадам абвясьцілі іх здраднікамі, якія памагалі нямецкім фашыстам мардаваць свой народ. У бээсэсэраўскай «літаратуры» радзіліся такія творы, як «Векапомныя дні» Лынькова ці опусы іншых аўтараў, што згодна з загадам зьверху, тварылі гэройскія міты «вялікай і непераможнай» з самым грандыёзным генэралісімусам зьверху.

Атакаваць беларускую эміграцыю, якая ў вольным сьвеце ня толькі будавала свае грамадзкія, рэлігійныя, асьветныя і палітычныя інстытуцыі і выдавецтва, узялася маскоўска-бальшавіцкая прапагандовая машына. Гэтая эміграцыя, бачыце, палягаючы ў асноўным на свае сьціплыя фінансавыя сродкі, ужо змагла дайсьці ў Вашынгтон, Лёндан, Парыж і іншыя цэнтры палітыкі вольных дзяржаваў. Адтуль пачалі цікавіцца Беларусяй — краінай, якую, як здалося Маскве, даўно пахавалі як незалежную дзяржаву. У Злучаных Штатах, бачыце, кангрэсмэны з нагоды ўгодкаў 25-га Сакавіка 1918 г., утварэньня БНР, прамаўляюць у Кангрэсе ў Вашынгтоне, губэрнатары абвяшчаюць дзень незалежнасьці Беларусі ў сваіх штатах. У 1985 годзе, прыкладна, губэрнатар штату Нью-Джэрзі, Томас Кейн абвесьціў 27-га лістапада «Днём Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў» з нагоды 65-х угодкаў Слуцкага паўстаньня.

Дзейнасьць беларускай эміграцыі ў змаганьні за вызваленьне Беларусі дый прыхільная рэакцыя палітыкаў заходніх дэмакратычных дзяржаваў у адносінах да гэтай эміграцыі часта ў Менску й Маскве называлася «машынай вазьнёй». Бальшавіцкія палітрукі рабілі вялізныя намаганьні, каб знайсьці на эміграцыі, прыцягнуць да адказнасьці за быццам вялікія грахі ў часе вайны ўдома хоць аднаго «злачынцу».

Іхныя шанцы, здавалася ім, падрасьлі, калі Прэзыдэнт Джымі Картэр стварыў «Бюро Спэцыяльных Іскаў». На прыцэл таго «бюро» трапіў насамперш Сяргей Гутырчык. Яму прыпісалі нейкія злачынствы здому, бо ён, бачыце, быў у Беларускай Самаахове, а тая, згодна забойцаў з Галугу, Курапатаў і Воўчага Хвосту і Чарнобылю, памагала гітлераўскім фашыстам вынішчаць беларусаў. Во як! Бальшавіцкім злачынцам за ўсялякую цану трэ было пасадзіць Гутырчыка, бо ёнжа во са сваімі вэтэранамі цэлы час на вачох Амэрыкі, рэклямуе бебурнацаў — «махровых злачынцаў», паводля савецкай тэрміналёгіі.

Ясна відаць, што Сяргея Гутырчыка бальшавікі ўзялі на прыцэл не за тое, што ён быццам меў грахі перад беларускім народам удома, а за тое, што ён так непахісна, заўзята, пасьлядоўна, разам зь іншымі адданымі беларускімі патрыётамі-вэтэранамі змагаўся за вызваленьне паняволенай Беларусі.

Беларускіх вэтэранаў у Амэрыцы мы бачылі як людзей са сьцягамі. І заўсёды франтавым сяродзь іх быў ахвярны й непахісны, па-гэройску цярплівы Сяргей Гутырчык. А цярпець было нялёгка, калі чужыя агенты, розныя падхалімы таўклі цябе й тваю сям'ю дзясяткамі гадоў. А ты мусіў як учора, так сяньня і заўтра прадаўжаць той няспынна-рэклямны марш са сьцягамі двух народаў, аднаго наймагутнейшага на сьвеце, а іншага — цяпер яшчэ запрыгоненага, але некалі вялікага, які зноў паўстане ў будучыні! Гэта было нялёгка.

Мы, сябры вэтэраны, удзячныя і Літвінцы (гэта імя, а не нацыянальнасьць) Гутырчыкавай, жонцы Сяргея, якая яму заўсёды памагала. Дзякуем Богу і за нашых вэтэранаў-амэрыканцаў і іншых, што памагалі Сяргею ў тым цяжкім паходзе. А Сяргею вечная памяць і слава!

**К. Акула**

## ДОМ ДЛЯ САСТАРЭЛЫХ

**у Адэляйдзе ў Аўстраліі**

Беларусы, украінцы й харваты тры гады таму задумалі пабудаваць дом для састарэлых людзей (гостэль). Ужо стаяць сьцены і накрыты дах. 30 студзеня дом будзе выканчаны. На гэта дзяржава дала 1,7 мільёна даляраў. Дом стаіць недалёка ад беларускай і украінскай цэркваў ды харвацкага народнага дому. У нядзелю 29 лістапада адбылося высьвячэньне будынку. На ўрачыстасьць прыйшлі беларусы, украінцы й харваты. Удзел узялі сьвятары: беларускі а. М. Бурнос, два ўкраінскія праваслаўныя і адзін грэка-каталіцкі і адзін харвацкі каталіцкі. Быў адпраўлены супольны малебен, асьвячаны будынак. Пасьля ўсе накіраваліся ў недалёкі парк Бонайтан, дзе пад вялікім шатром, на версе якога калыхаліся беларускі, украінскі, харвацкі й аўстралійскі сьцягі, адбыўся пікнік. Было шмат смачнай ежы ахвяраванай жанчынамі, грала музыка, усім было весела й прыемна. Прыбытак з гэтага мерапрыемства пайшоў на новазбудаваны цэнтар.

**У. Акавіты**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



Б. Тапчага-Вязьніцкі

# *ДУШОК*

*(Беларуская нацыяналістычная казка)*

Жыў ды быў на Белым сьвеце Душок. Разумненькі, крэпенькі, зграбненькі, але такі невялічкі, нават зусім маленькі. Проста, сказаць вам, такі дробненькі, што людзі часам імя ягонае з маленькай літаркі пісалі.

Бытаваў гэты Душок на Беларусі здаўна. З суседзямі без патрэбы не сварыўся. Хіба што тыя назаляць пачыналі, а яшчэ горш — у непакліканыя госьці прыходзілі. Злаваўся тады Душок. Гневаўся. Але гневу таго толькі на кароткі час хапала. Вымяталіся госьці і гнеў з сабой забіралі. Што й казаць, шчодрым быў наш Душок на гэткія падарункі…

Аднаго разу, цяпер не згадаю: ці-то ў сыботу, ці-то ў пятніцу, ведаю толькі, што перад самымі Калядамі, а можа й на Купальле, прыйшлі да нашага Душка такія Непакліканыя госьці. Кінуўся быў Душок свайго гневу шукаць, ды… не знайшоў: альбо сам забыўся куды паклаў, альбо папярэднія гэткія-ж госьці ўвесь з сабой вынесьлі і ні кроплі Душку не пакінулі.

А Непакліканыя тым часам за Душковым сталом расьселіся, стравамі далікатнымі частуюцца, марцыпанамі ласуюцца, крупнік ды ганушоўку вёдрамі жлукцяць, чвякаюць, адрыгаюць, пальцы свае ад смакаты аж па локаць аблізваюць, а напрыканцы бяседы ногі на стол паўскладалі і, як выглядае, дадому ня зьбіраюцца. Можа наступнае вячэры чакаюць, а можа й пасьлянаступнага полудню.

Пачаставаў іх Душок і тэй вячэрай і тым полуднем. А Непакліканым — усё мала.

— Давай, — крычаць яны да бязгнеўнага Душка, — нам свой ложак: мы адпачываць будзем…

Далей — болей. Пачалі яны з таго ложка Душку загады аддаваць, ды яшчэ яго самога тыя загады на дзяржаўных белягох (блянках) пісаць змусілі.

«Што-ж, — падумаў сабе Душок, — госьці — людзі сьвятыя, хоць і Непакліканыя, а шанаваць трэба. Патрываю яшчэ крышачку, а там, як залёсіць, то можа яны й дадому зьедуць…»

Гэтак прайшоў год. Патлусьцелі госьці. Расхрабрыліся. Гаспадара, Душка, і наагул заўважаць перасталі. Здаралася, аддаюць яму чарговы загад, якіх за дзень да дзьвюх коп набіралася, у вочы Душковыя глядзяць, а ў паглядах іхных такая золь і пустэча, такая абыякавасьць, што страшна робіцца. І адчувае Душок: ня бачаць яго госьці Непакліканыя, празь яго, як празь цень, ягонымі абшарамі захапляюцца, празь яго, як праз здань, пад ягоным сонейкам грэюцца.

Хацеў быў Душок асьцярожна падказаць ім, што, маўляў, загасьцяваліся, ці ня час вам, маўляў, госьцейкі дарагія, дадому зьбірацца? Ды дзе там! Тыя і слухаць ня хочуць, а, як па-праўдзе, дык і ня чуюць. Вушы тлушчам пазаплывалі, раты ад доўгага чвяканьня на лычы параблівся, вочкі ад бязгнеўнага Душковага трываньня ўшчэнт абнахабіліся.

Прамінуў яшчэ год… А можа й дзесяць… Хто ведае?

Жывуць Непакліканыя госьці ў Душка прыпяваючы, а хто па такім жыцьці гады лічыць будзе? Самому-ж Душку таксама няма калі. Ён, то ў полі працуе, то есьці гатуе, а то і ў лазьні вялізныя Непакліканскія сьпіны парыць, ды траха што ля прыбіральні з паперкай не стаіць.

О-то-ж у лазьні ўсё й пачалося…

Цэпліў Душок тую лазьню ад раніцы. Пад вечар Непакліканыя ледзьве ў дзьверы ўсунуліся: так растлусьцелі і во як горача. Можа ад во гэтай тлустасьці, ці ад тае гарачыні і скруціліся на бок глузды ў Непакліканых.

— Ты што, — зачалі яны крычаць да Душка, — лазьні як след не нацепліў!!! Мала таго, што мы на сабе цяжар тутэйшага бруду цягаем, дык нам яшчэ і памыцца па-людзку няма як!! Халадам нас у магілу загнаць хочаш!

Кінуўся быў Душок на дрывотню, а там — ні трэсачкі, пабег быў да лесу, а там — ні галінкі, ні пянёчка трухлявага, выскачыў на тарфянішча — усё выбрана. Прыймчаўся ён назад у лазьню ды й кажа:

— Даруйце мне, госьцейкі дарагія, няма чым гарачэй печку напальваць… Я й рады-б дагадзіць вам, ды — нéяк.

Зьнярухомелі госьці ад нечаканасьці: за столькі гадоў ім тут упяршыню адмовілі. Стаяць. Маўчаць. Вачыма лыпаюць. Ськівіцы ад неспадзеўкі аж да ступакоў паадвальваліся.

Спужаўся бязгнеўны Душок. Спалохаўся. Ды й як не застрашыцца? Гэта-ж не жартачкі — дарагіх гасьцей пакрыўдзіў.

А госьці тым часам ачомаліся і паміжсобку па-свойму загаманілі. Слухаў іх слухаў зьбянтэжаны Душок, аж раптам пачало яму здавацца, што гэта ня госьці ніякія і наагул ня людзі, а нешта такое, што нікому ня ведамае. Пачаў тады Душок уважней прыслухоўвацца. А госьці на яго — ні вокам. Адзін гаворыць, як гуся гагае, другі — як зьмяя шыкае, трэйці й дзясяты: наагул не разьбярэш якім зьверам галёкаюць. Хацеў быў Душок за качарэжнік ухапіцца, каб павытурыць гэтую набрыдзь, як набрыдзь да яго нашай мовай зьвярнулася:

— Ці ня мог-бы ты, Душок, з намі на чалавечай мове растлумачыцца, бо нам ад твайго дзеканьня й цеканьня зусім глузды павыкручвала.

«Што-ж, — падумаў на гэта Душок, — госьці — людзі сьвятыя. Якжа сьвятых не паслухацца.»

Усчаў ён тады з кім па-гусінаму, з кім па-зьмяінаму, ці па-якому там яшчэ вытлумачвацца.

Выслухалі яго госьці. Пашкадавалі, што раней сваімі мовамі гаварыць ня змусілі, бо дужа-ж добра ўсе тыя мовы ў Душка выходзілі. Адно толькі словы некаторыя, часам, гучалі нязвыкла, ды дзеканьне й цеканьне ў іх, як залатая істужка ў нямытыя косы, уплята-лася.

Падзівіліся ўсяму гэтаму госьці. Моўчкі пазахапляліся. Бяз усьмешак парадаваліся, а потым і кажуць:

— Мы, Душок, у цябе ўжо колькі часу жывем. Сем'і свае дзеля цябе пакінулі, думкі свае табе, як лепшаму сябру, па-сакрэту загадвалі, самых патаемных жаданьняў ад цябе ня ўтойвалі. І вось чым за нашыя давер і дабрыню ты нам сплочваеш: халоднай лазьняй, нялюдзкай гаворкай ды чорнай няўдзячнасьцю. Крыўдна, што й казаць, ды не такія мы, каб крыўду доўга памятаць. Зрабі ласку, дагадзі яшчэ раз: сядзь у печ на вуголле, можа лазьня й нацепліцца.

«Жто ж, — падумаў Душок, — госьці — людзі сьвятыя. Не дагодзіш — вялікі грэх на сабе мець будзеш. Трэба, відаць, у печ лезьці». Падыйшоў ён да печы. Горача. На тузін крокаў не прыступіцца. Ды што рабіць? Як не дагадзіць, хаця й Непакліканым… Узяў ён тады конаўку з халодным вадзіцай. Хацеў на сябе пырснуць, каб ня так горача у печы гарэць было. Глянуў на ваду і аслупянеў. З вады пазірала на

*(Працяг на 8-й ст.)*

# СЬВ. ПАМ. КАМПАЗЫТАР АЛЕСЬ КАРПОВІЧ

У паўночнай Нямеччыне ў гор. Ольдэнбургу памёр 27 лістапада летась на 84-м годзе жыцьця кампазытар Алесь Карповіч. Нябожчык пражыў у паўночнанямецкім горадзе ўвесь паваенны час, воддаль ад беларускіх асяродкаў і беларускага грамадзка-культурнага жыцьця, якім увесь час цікавіўся і ў якім, наколькі мог, браў удзел.



*Прыяцелі й супрацоўнікі на музычнай ніве, сьв. пам. Алесь Карповіч і Эльза Зубковіч, у 1969 годзе.*

Яшчэ на пачатку 1950-х гадоў, калі ў гор. Лювэне ў Бэльгіі існаваў беларускі студэнцкі хор пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Равенскага, Алесь Карповіч прыяжджаў у Лювэн як піяніст і акампаніятар, браў удзел у гастролях хору, граў танцавальнаму гуртку. Ад тых часоў у мяне з Карповічам завязалася дружба. У папцы захаваліся ня толькі ягоныя лісты, але й нотныя аркушы зь песьнямі.

Алесь Карповіч вельмі чульліва і творча рэагаваў на лірычныя вершы беларускіх паэтаў і часьцяком дапытваўся ў сваіх лістох вершаў для магчымага музычнага апрацаваньня іх. Сёетое я яму пасылаў.

У 1979 годзе, акрыяўшы ад цяжкое апэрацыі, ён прыслаў мне чатыры свае песьні на словы Алеся Звонака («Беларускія жанчыны»), Валянтыны Аколавай («Паміж намі дарогі»), Міхася Кавыля («Ля ракі над кручай») і Максіма Танка («Вырай»). У лісьце, камэнтуючы верш Звонака «Беларускія жанчыны», кампазытар пісаў: «Каб больш было такіх вершаў — лірычных, патрыятычных, гэраічных, але галоўнае — шчырых па пачуцьцю, якое ў іх чуецца і якое лёгка кладзецца на музыку».

Сяму-таму копіі гэтых Карповічавых песьняў я даваў, але не даводзілася нідзе чуць, як яны гучаць у вакананьні сьпевакоў ці сьпявачак. Калі зазірнуў нядаўна ў папку з матарыяламі пра нябожчыка, падумалася: гэта-ж трэба гэтыя песьні выслаць у Менск у Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны, дырэктар якога, сп. Адам Мальдзіс, рупліва займаецца зьбіраньнем такіх матарыялаў.

Алесь Карповіч — сьветлая і заслужаная постаць на нашым гістарычным ляндшафце. Ягоны жыцьцёвы шлях пазначаны драмай ростані з Бацькаўшчынай і верным служэньнем ёй здалёк. Творчы шлях нябожчыка, паводля ягонай рукапіснай запіскі, якую перахоўваю разам зь лістамі і рукапісамі песьняў, пачаўся ў 1932 годзе. Вось як выглядае складзены Алесем Карповічам сьпісак працаў пад заг. «Творчая і навуковая дзейнасьць».

**1932-1937 гг.**

«Імпрэсіянізм у музыцы» (творчасьць Клёда Дэбюсі — дыплёмная праца.)

Паліфанічныя творы для фартэпіяна і струннага квартэту.

Санатнае allegro. Музыка да балету «Салямэя».

**1937-1941 гг.**

Манаграфія аб творчасьці беларускіх кампазытараў: Багатырова, Аладава, Цікоцкага, Туранкова, Падкавырава і інш.

Крытычныя артыкулы ў беларускіх газэтах.

Праца над курсам «Гісторыя беларускай музыкі».

Музычна-пэдагагічная п'еса для фартэпіяна.

Апрацоўкі беларускіх песьняў.

**1941-1944 гг.**

Нарысы па гісторыі беларускай музыкі (надрукаваныя ў «Менскай газэце»).

Артыкулы аб творчасьці беларускіх кампазытараў (надрукаваныя ў часапісе «Новы Шлях», Рыга)

Рамансы на словы беларускіх паэтаў.

Саната для фартэпіяна, прэлюдыі, тарантэля і г.д.

**1945-1952**

Артыкулы: «Да праблемы беларускага нацыянальнага стылю ў музыцы», «Беларускае народнае музычнае жыцьцё», «Храналёгія беларускай музыкі».

Рамансы на словы ўкраінскіх паэтаў. («Нотурно», «Сумний вальс», «Цвіте калина», «Над Дніпром», «Колискова», «Не треба слів» і г.д.).

Рамансы на словы беларускіх паэтаў («Драўляны дом», «Да якой дзяўчыны я хаджу», «Маім бацьком», «Сьнег», «Адна ізноў адна», «Не глядзі на мяне», «Палі паўкрываліся шэрай імглой», «Песьня», «Засьцілаў туман даліны» і г.д.)

Беларуская рапсодыя» для фартэпіяна, 12 Preludes, Valse, “Poem”, «Украінскі танец», «Таката» і г.д.

Цяпер працую над манаграфіяй аб творчасьці кампазытара Міколы Равенскага і над «Танцавальнай сюітай» на беларускія тэмы для фартэпіяна.

Даты гэты дакумэнт ня мае. Быў ён напісны ці ня ў 1952 годзе, пасьля якога, напэўна, пералік твораў кампазытара яшчэ шмат чым дапоўніўся, як пра гэта сьветчаць напісаныя ім у 1979 годзе вышэй згаданыя чатыры песьні.

Нябожчык пакінуў у глыбокім смутку жонку і дзьве дачкі, якім ад імя ўсіх ягоных прыяцеляў зь лювэнскіх часоў выказваю шчырае спачуваньне.

**Янка Запруднік**

## «ПОДЗВІГ СКАРЫНЫ»
## “L'IMPRESA DI SKARINA”

Менскае выдавецтва «Беларусь» выпусьціла асобнай брашурай прамову Міністра замежных справаў Беларусі Пётры Краўчанкі, сказаную на адкрыцьці мэмарыяльнай дошкі ў гонар Францішка Скарыны ў Падуанскім Унівэрсытэце ў Італіі. Тэкст прамовы зьмешчаны ў беларускім арыгінале й італьянскім перакладзе. Урачыстасьць адкрыцьця дошкі адбылася 20 кастрычніка 1992 году. У прамове сваёй Пётр Краўчанка аналізуе эпоху Скарыны, дае біяграфічныя дадзеныя з жыцьця выдатнага беларускага навукоўца, згадвае яшчэ аднаго Скарынавага сучасьніка. «Вельмі прыемна тут, у Італіі, — сказаў сп. Краўчанка, — успомніць і аддаць належнае сучасьніку Скарыны нашаму выдатнаму паэту Міколу Гусоўскаму… Ёсьць зьвесткі, што 1 сакавіка 1520 году ў Балёнскім Унівэрсытэце ён атрымаў ступень доктара філязофіі».

Характарызуючы дзейнасьць Францішка Скарыны й іншых падобных да яго асобаў у культурным разьвіцьці беларускае нацыі, Краўчанка адзначыў:

«Самаахвярнасьць, імкненьне ўсяго сябе аддаць свайму народу… Імкненьне да кансалідацыі беларускай народнасьці, чаму ў немалой ступені садзейнічаў пераклад Бібліі на 'рускі язык', гэта значыць, на старабеларускую мову.

«Рэвалюцыйнасьць Скарыны, яго дух першапраходніцтва і барацьбы. Трэба было мець грамадзянскую мужнасьць, каб перагледзець кананічныя падыходы, даць народу Біблію на зразумелай яму мове. Любоў Скарыны да свайго народу, да роднай мовы, — сказаў прамоўца, — аднак нідзе не перарастала ў нацыянальны эгаізм ці эгацэнтрызм.

«Сусьветная слава сёньня ня грэе Францішка Скарыны, але яна патрэбна яго народу. Цяпер, як ніколі, калі мы ствараем незалежную дзяржаву, дзяржаву ва ўлоньні Новай Эўропы, нам патрэбна такое нацыянальнае духоўнае апірышча, як ідэі і запаветы Скарыны».

Некалькі паасобнікаў брашуры П. Краўчанкі ёсьць у рэдакцыі «Беларуса», якімі рэдакцыя можа падзяліцца.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## ДУШОК

*(Заканчэньне зь 7-й ст.)*

яго невядомая істота: валасы на галаве нямытыя і паблытаныя, у вачох пакора рабская й жах нясусьветны, нос, як у нябожчыка — загойтраны, шчокі аж да хрыбініцы ўсярэдзіну ўваліліся... Спалохаўся Душок. Конаўку асьцярожненька, каб ня спудзіць пачвары, што там была, на лаву паставіў.

— Што з табой? — запыталіся госьці.

— Т-т-там, — адказаў Душок, — с-сядзіць н-н-нехта.

Узялі госьці конаўку. Глянулі. Свае ўкормленыя рылы ў водным адлюстраваньні згледзелі. Залюбаваліся. Потым да Душка прыступілі:

— Гэта-ж, — кажуць, — адбіткі нашых аблічаў там! Як мог ты, сьмярдзюк, назваць іх пачварамі?!

Глянуў Душок яшчэ раз у конаўку і як маланкай яго праз глузды рэзнула: «Дык гэта-ж я такі! Гэта-ж маё аблічча там адбіваецца! Гэта-ж мне за гады Непаклiканскага гасьцяваньня гэтых ані разочку ў чыстую вадзіцу глянуць не давялося!»

Выпрастаў Душок сваю сагнутую сьпіну. Думаў: кроў закіпіць, ды мала чаму кіпець засталося. Думаў булаву ў рукі схапіць, ды нешта ў пальцах храснула і тыя непаслухаліся. Хацеў хаця-б глянуць злосна, ды агонь у вачох не запальваўся.

Адно, што змог ён зрабіць на пачатку, дык гэта ўдыхнуць сьвежага паветра на поўныя грудзі. А, удыхнуўшы раз, пачуў кроў у жылах, другі раз — моцу ў руках, ды агонь у вачох — на трэйці раз. Гнеў, што на сам-пачатку згубіўся недзе, таксама памужнелы й пасталелы гарачым полымем у сэрцы заняўся.

Глянулі на ўсё гэта Непаклiканыя госьці і зьнярухомелі. Бо ня Душок быў ужо перад імі, як некалі, але — Дух і Дух не абы-які! Высокі, зграбны, сьветлавалосы й яснавокі НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДУХ гэтай зямлі. Дух маці-Беларусі, які збудзіць — небясьпечна, а ўлашчыць — ганарова. Дух гэты выклікаў павагу й пашану, хаця булавы ў руках і ня меў.

Увачавідкі памізарнелі Непаклiканыя госьці. Кінуліся яны хто куды, і нехта зьбег-такі, а сёй-той у дрыгвяным балоце нагой заграз, сёй-той у павучыньне ўблутаўся, ды сёй-той за шыпшынавыя голкі зачапіўся...

... Ясным сонечным ранкам, калі росы зіхцяць у траве, а паветра напаўняецца галасамі птушак, чуюцца мне, часам, зь цемры, што адпаўзае за вугол нашага краю, галасы. Галасы тыя слабыя, але надта-ж зьвяглівыя. Бязладным хорам плявузгаюць яны свае бясконцыя: Дай! Прынясі! Дагадзі! Ды: Гавары па-нашаму!

Гэтыя словы ліпнуць да мяне, як балотная твань да замурзаных лытак Багніка. І тады я тройчы ўздыхаю на поўніцу, бо ведаю сэнс кожнага чароўнага ўздыху, пры якім падаюць у нябыт прагнілыя бросьневыя словы Непаклiканых, нястрашных і зьмізарнелых. Затым мы зь сябрамі нацэпліваем лазьню, даём духу і пачынаем парыцца...

*Апрацаваў і падаў да друку зь некаторымі скарачэньнямі*
**Сяржук Сокалаў-Воюш.**

## СЬВ. ПАМ. ЛЯВОН СІДАРЭВІЧ



28 лістапада 1992 г. памёр пасьля цяжкой хваробы на 60-м годзе жыцьця Лявон Сідарэвіч, сябра Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага. Паніхіду, на якую зыйшліся браты нябожчыка Аўген і Ўолтэр, сын Ўолтэр і былая жонка Сыльвія, адслужыў 1-га сьнежня ў пахавальным доме а. Алег Міранові́ч, настаяцель прапаслаўнай царквы сьв. Юрыя. У сваёй казані ён падчыркнуў няўстойлівасьць людзкога жыцьця, адзначыўшы, што вартасьць чалавека не ў яговым матарыяльным багацьці, але ў добрых учынках — тое, да чаго імкнуўся сьв. пам. Лявон Сідарэвіч. Сп. Нікодэм Жызьнеўскі, кіраўнік беларускай радыёпраграмы «Нёман», распавёў пра грамадзкую дзейнасьць нябожчыка. Сп-ня Вера Рамук прачытала свой верш, прысьвечаны сьветлай памяці Лявона Сідарэвіча.

3-га сьнежня пасьля ўрачыстай літургіі ў пахавальным доме цела нябожчыка супачыла ў маўзалеі побач яго-ных бацькоў на чэшскіх могілках.

Лявон Сідарэвіч радзіўся 15 студзеня 1932 г. ў вёсцы Бобрык каля Пінска. Пад канец Другой сусьветнай вайны бацькі яго эвакуаваліся з трыма сынамі ў Нямеччыну. У чэрвені 1950 г. сям'я перабралася ў Амэрыку, у штат Тэксас, адкуль неўзабаве перасялілася ў Чыкага. Тут Лявон закончыў сярэднюю школу. Вайсковую службу адбыў у Нюрэнбэргу ў Нямеччыне. У 1957 годзе заліччыўся ў Інстытут Тэналёгіі на факультэт электрычнай інжынерыі, які закончыў (часткава працуючы ў міжчасе) у 1965 годзе. Працаваў праз 30 гадоў ды займаў кіраўнічыя становішчы ў фірме, што вырабляла рэнтгенаўскія машыны, гэнэратары і трансфарматары.

Лявон Сідарэвіч браў актыўны ўдзел у беларускім арганізацыйным жыцьці: у 1954 годзе быў адным з заснавальнікаў Арганізацыі Беларускай Моладзі штату Іліной і адбыў адну кадэнцыю на становішчы старшыні гэтай арганізацыі. У 1960 годзе быў адным з заснавальнікаў беларускай радыёпраграмы «Нёман», якая й дасюль перадаецца штомесяца. Ад 1973 году быў скарбнікам БККЧ, выконваючы свае абавязкі салідна і акуратна, за што быў узнагароджаны плякеткай ад Камітэту ў 1989 годзе, а ў 1991 годзе змушаны быў адмовіцца ад гэтага становішча з прычыны слабога здароўя. На працягу аднаго году быў старшынём БККЧ.

Нябожчык меў прыгожы каліграфічны почырк і ахвотна нарыхтоўваў напісы на плякатах для беларускіх выставак і розных імпрэзаў, цешыўся, калі пачаўся адраджэнскі рух у Беларусі. Кожная ўдача на нацыянальным шляху на Бацькаўшчыне акрыляла яго на духу.

Няхай будзе Табе, дружа, лёгкай амэрыканская зямля і сьняцца сны пра сінявокую Беларусь.

**Др. Вітаўт Рамук**

## «У ЗЕМЛЯКОЎ ЗА АКІЯНАМ»

Пад гэткім загалоўкам выйшла ў Менску ў выдавецтве газэты «Голас Радзімы» кніжка нарысаў журналісткі Тацьцяны Антонавай. Антонава ўлетку 1991 году наведала сваіх суродзічаў у штаце Нью-Ёрк і Нью-Джэрзі. «Вельмі зблізку давялося ўбачыць, — піша аўтарка, — як заможна і годна жывуць тут мае землякі. Пачуваюцца людзьмі. Шмат працуюць. Трымаюцца адзін аднаго. Захоўваюць мову традыцыі і звычаі свайго народу. Толькі дзякуючы ім, напэўна, і ведалі ў Амэрыцы, што ёсьць такая краіна Беларусь. Шмат чаго робяць, каб дапамагчы сваёй зямлі ў чарнобыльскай бядзе».

У кніжцы (112 ст.) зьмешчаныя адзінаццаць нарысаў Т. Антонавай, што былі апублікаваныя летась у менскіх газэтах «Голас Радзімы» і «Зьвязда». Антонава піша вобразна, лёгкім стылем, назіральна, з добрым разуменьнем складанасьцяў жыцьця. Ейныя гутаркі з Натальляй Арсеньневай, Антонам Шукелайцем, Вітаўтам і Зорай Кіпель, Адамам Акулічам, Алай Орсай-Рамана ды іншымі асобамі — вартасны дакумэнт часу і добры матарыял да гісторыі беларускага замежжа.

## БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ СЭМІНАРЫ ПРЫ ЛЁНДАНСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Маладыя беларускія навукоўцы, што праходзяць стаж у Славянаведнай школе Лёнданскага Ўнівэрсытэту, правядуць сёлета ва ўнівэрсытэце сэрыю сэмінараў (па-ангельску). Будуць разглядацца гэткія тэмы:

**др. Васіль Еўдакімаў** — «Апошнія зрухі ў заканадаўстве Беларусі» (25 лютага):

**Віталі Зайко** — «Гэбрэі ў Беларусі — 500 гадоў сымбіёзу» (4 сакавіка):

**Ігар Бабкоў** — «Беларусь — праблемы нацыянальнай тоеснасьці» (11 сакавіка)

**Тацьцяна Буйко** — «Да пытаньня нацыянальнай сыстэмы адукацыі ў Беларусі» і **Тамара Курбыка** — «Сацыяльная і палітычная сытуацыя ў Беларусі» (18 сакавіка).

## ШУКАЮ РОДЗІЧАЎ

Шукаю брата Вацлава Паўхлеба і брата Міхася, а таксама сёстраў Марыю і Люсю Паўхлеб. Нарожаныя ў мястэчку Рубяжэвічы, яны жылі ў Івянцы. Апошнія весткі ад іх былі з Усходняй Прусіі ў 1944 годзе.

Сыднэй, Аўстралія

Весткі просіцца слаць на газэту «Беларус». **Язэп Паўхлеб**

## ЭКАНАМІЧНЫЯ СУВЯЗІ З ПОЛЬШЧАЙ

Тавараабмен паміж Беларусяй і Польшчай у 1992 годзе склаў 300 міліёнаў даляраў — удвая больш, як у 1991 годзе. Заснавана ўжо 200 супольных прадпрыемстваў і створаныя ў розных гарадох прадстаўніцтвы. (FBIS, 7.I.93, 44)

## «ЗЯЛЁНЫЯ КАРТАЧКІ» ТРЭБА МЯНЯЦЬ

### Да жыхароў ЗША, што ня маюць грамадзянства

Калі Вы ня маеце амэрыканскага грамадзянства, а толькі пасьветчаньне аб пражываньні, «зялёную картачку» (Green Card), і калі гэтая картачка была вададзеная Вам перад 1974 годам, то Вы мусіце зьвярнуцца да мясцовага аддзелу Іміграцыі і Натуралізацыі, каб «зялёную картачку» абмяняць (кошт абмену — 70 даляраў).

## СВАЯКІ Ў БЕЛАРУСІ ШУКАЮЦЬ:

**Станкевіч Юлію Адамаўну і братоў Лісьнеўскіх** — Ануфрыя, Віктара і Рыгора Георгіевіча. Яны прыехалі ў ЗША да рэвалюцыі зь вёскі Емельянава Гарбацэвіцкай воласьці Бабруйскага павету. Паводля вестак сваякоў, яны жылі ў Кліўлендзе, штат Агаё. Калі-б хто-небудзь з нашых кліўлендцаў мог даведацца што-небудзь пра іх, просім паведаміць на адрас:

Mr. Gregory Moroshek
3871 Sedgwick Avenue, Apt. 5H
Bronx, N.Y. 10463

## У ФОНД БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

*У памяць в.п. Марыі Кіпель*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | ам. дал. 50 |
| А. Субота | 50 |
| У. і Л. Брылеўскія | 50 |

*На выдавецтва:*

| | |
|---|---|
| Н. Жызьнеўскі | 500 |
| Др. М. Смаршчок | 500 |
| К. І. | 500 |
| Разам | 1650 |

## СЬП. ПАМ. а. ПРАТАЯРЭЙ ЯНКА ПЕКАРСКІ

Народжаны 12 лістапада 1923 г. ў в. Сурынка Слонімскага павету, памёр 12 студзеня 1993 г. Нябожчык быў актыўным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ад самага заснаваньня арганізацыі. Пахаваны на магільніку Стывэнадж.

Глыбокія спачуваньні матушцы Аляксандры, сыну Пётру, дачцы Ніне і іхным сем'ям выказвае

**Галоўная Ўправа ЗБВБ**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю (падпіска й ахвяры):*

*Замест кветак на магілу с.п. М. Кіпель:*

| | |
|---|---|
| У. Набагез | 100 |
| Г. Руднік | 100 |
| Ф. і В. Бартуль | 50 |
| сп-тва Непейн | 50 |
| Н. Чупракад | 30 |
| Я. Крэсла | 25 |
| К. і Г. Мерляк (замест кветак на магілу с.п. С. Гутырчыка) | 50 |
| В. Паўк | 50 |
| В. і М. Махнач | 50 |
| М. Латушкін | 50 |
| А. Беленіс | 30 |
| В. і В. Рамук (у памяць Л. Сідарэвіча) | 30 |
| І. Пануцэвіч | 30 |
| П. Конюх | 23 |
| В. П. Лёхэр | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| Замест кветак на магілу с.п. Зыгмунта Сенкевіча: | |
| Згурт. Бел у В. Брытаніі | анг. ф. 20 |
| сп-тва П. Асіповіч | 10 |
| За калядныя віншаваньні: | |
| Згурт. Бел. у В. Брытаніі | 35 |
| ст-ва Я. Міхалюк | 12 |

**Папраўка:** Ахвяраваныя І. Аўдзеем 50 дал. і С. Грамыкам 20 дал. (гл. «Беларус» № 397) былі ў памяць Ігара Шчорса.

*Ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Б. і А. Даніловіч у 2-ю гадавіну сьмерці с.п. дарагога сына Эдварда | ам.д. 200 |
| Б. Даніловіч | 100 |
| М. Ганько | 77 |
| Згурт. Бел. Канады | 77 |
| М. Абрамчык | 60 |
| А. Монід | 50 |
| Сэктар Рады БНР у Канадзе | 50 |
| М. Кулеш | 50 |
| А. Завістовіч | 50 |
| І. Цупрык | 50 |
| Ю. Беразоўскі | 50 |
| В. і Г. Русак (замест кветак на магілу с.п. М. Кіпель) | 50 |
| Задз. Бел.-Ам. Вэтэранаў | 50 |
| А. Протас | 40 |
| Л. Шурак | 30 |
| А. Непейн | 30 |
| Я. Бурдзь | 30 |
| П. Бурдзь | 30 |
| К. Шыкалюк | 30 |
| В. Русак | 30 |
| А. Філістовіч | 30 |
| А. Хрэноўскі | 25 |
| Я. Чорны | 25 |
| Л. Драздова | 25 |
| South River Travel | 25 |
| К. Кумэйша | 25 |
| К. Міранові́ч | 25 |
| А. Шостак | 25 |
| Ю. Азарка | 20 |
| Разам | 1359 |

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014